*Міхась Чарняўскі*

# Дзесяць бітваў

Вільня
«Наша Будучыня»
2004

UDK 882.6-93
Ч-21

М а с т а к
*Рыгор Долбік*

Фундатар кнігі
*Беларускі Дабрачынны Фонд Вялікабрытаніі*
*(Belarusian Charitable Trust of Great Britain)*

**Чарняўскі М.**
Ч-21 Дзесяць бітваў. — Вільня: Наша Будучыня, 2004. — 64 с.
ISBN 9986-9229-9-3.

Аўтар цікава апавядае пра бітвы старадаўніх часоў (ад адзінаццатага да сямнаццатага стагоддзя), у якіх нашыя прадзеды выявілі асаблівую мужнасць і рыцарскае майстэрства. Кніга багата ілюстраваная — картамі, дзе паказаныя перамяшчэнні войскаў, схемамі і выявамі бітваў, партрэтамі герояў, малюнкамі тагачаснай зброі і г.д.
Для падлеткаў і юнакоў.

UDK 882.6-93

ISBN 9986-9229-9-3

# Уступ

Наш блакітна-зялёны край ляжыць на еўрапейскім раздарожжы. Гэтак было заўсёды — ад пачатку вякоў. Ад таго часу, як дванаццаць тысячагоддзяў назад узгор'і і раўніны Беларусі засялілі першыя людзі. Гэта былі плямёны паляўнічых на паўночных аленяў. Тады яшчэ было холадна — толькі канчалася ледавіковая эпоха.

Наш край знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, у верхніх цячэннях і пры вытоках вялікіх рэк — Нёмана, Дзвіны, Дняпра і Волгі. Таму ён быў і застаецца нібы калідорам між Еўропай Усходняй і Заходняй, між Прыбалтыкай і Прычарнамор'ем.

Пакарыстацца гэтым "калідорам" заўсёды было шмат ахвотнікаў. Мала хто з іх прасіў дазволу, большасць ішла са зброяй у руках. А дужэйшыя імкнуліся запанаваць тут назусім, выцесніўшы гаспадароў у палескія балоты. Але нярэдка і нашым продкам рабілася цесна ў сваіх абшарах. І яны, адгукаючыся на покліч крыві, ішлі на край зямлі. Ішлі на ўсе чатыры бакі свету — да заснежаных гор і салёных марскіх узбярэжжаў, пакідаючы за сабою пыл і попел. І калі на шырокім полі, каб развязаць спрэчкі, зыходзілася мноства ўзброеных ваяроў, тады пачыналіся бітвы. Найбуйнейшыя з іх часта вырашалі лёс плямёнаў і цэлых народаў, мянялі далейшую ходу гісторыі.

На долю нашых продкаў выпала шмат бітваў. І большасць іх была пераможнай. Бо іначай мы не ацалелі б на гэтай зямлі, якую сёння завём — Беларусь.

Пра бітвы ў перадпісьмовы перыяд нашай гісторыі, у першабытныя часы, мы можам толькі здагадвацца. Па пластах вуголля на гарадзішчах, па дзюбах стрэлаў сярод людскіх шкілетаў... З таго ж, што занатавана пазней у старадаўніх летапісах, архіўных дакументах, сведчаннях тагачаснікаў, мы выбралі дзесяць бітваў. Тых бітваў, у якіх нашыя прадзеды праявілі асаблівы гарт духу і моц зброі, выстаялі і перамаглі.




межы Полацкага княства адзінаццатага–дванаццатага стагоддзяў

залежныя ад Полацка землі

паходы полацкіх князёў

# Бітва за Варажскае мора

Першую вядомую ў летапісах беларускую дзяржаву больш як тысячу гадоў таму ўтварылі плямёны крывічоў. Называлася яна Полацкім княствам — па стольным горадзе Полацку, размешчаным пры ўпадзенні рэчкі Палаты ў Дзвіну. Сярод слаўных валадароў Полаччыны вядомыя князі з дынастыі Рагвалодавічаў — Брачыслаў і асабліва Усяслаў, празваны Чарадзеем.

Полацкае княства займала Сярэдняе Падзвінне — цэнтральны ўчастак гандлёвага шляху з “варагаў у грэкі”, які злучаў Балтыйскае і Чорнае моры.

Умацаваўшы сваё гаспадарства, палачане захацелі пашырыць ўладанні. Ужо за Брачыславам (1003 — 1044 гг.) яны авалодалі паўднёва-ўсходнім краем сённяшняй Латвіі. Паставілі там некалькі моцных замкаў і выйшлі да Дняпра ў раёне Воршы. Асабліва настойліва полацкія дружыны прабіваліся да Ноўгарада. У гэтым некаторыя гісторыкі бачылі імкненне аднавіць колішнюю вялікую Крывіцкую дзяржаву. Аднак асноўнай мэтай гэтых намаганняў было апанаваць паўночную частку балтыйска-чарнаморскага гандлёвага шляху, каб выйсці да Фінскай і



Полацак у дванаццатым стагоддзі. Малюнак паводле рэканструкцыі, зроблены на падставе археалагічных раскопак



Усходнеславянскія ваяры на караблях. Малюнак з Радзівілаўскага летапісу

Рыжскай заток. Змаганне за марское ўзбярэжжа было працяглым і крывавым. Гэтая бітва за Варажскае мора (так у славянскіх летапісах звалася Балтыка) доўжылася дзесяцігоддзямі.

У 1021 годзе Брачыслаў з полацкай дружынай і наймітамі (варагамі з Скандынавіі) пайшоў на Ноўгарад і захапіў яго. Паводле гісторыка Длугаша, ён падначаліў усё Ноўгарадскае княства, пасадзіўшы ў ім сваіх намеснікаў.

Страта паўночных тэрыторыяў, а найбольш выхаду ў Варажскае мора,ператварала Кіеўскую імперыю Рурыкавічаў у другарадную дзяржаву на Усходзе Еўропы. З гэтай прычыны кіеўскі князь Яраслаў паспешліва сабраў дружыны і пайшоў вайной на Брачыслава. Войскі сышліся на рэчцы Судоме — прытоку Шалоні. Пасля зацятай бітвы Яраслаў, як сцвярджаюць некаторыя летапісы, нібыта перамог. Але дзіўная справа — у выніку "пераможац" перадаў "пераможанаму" важныя гарады Віцебск і Усвят. Гэтакім парадкам пад кантроль палачанаў траплялі волакі для гандлёвых караблёў не толькі з Ловаці ў Дзвіну, але і з Дзвіны ў Дняпро. Мабыць, не такі ўжо вялікі поспех быў у кіянаў, калі давялося задобрываць Брачыслава тэрытарыяльнымі саступкамі. Можа за гэта



Полацкія дружыннікі ў пласцінкавых панцырах і шаломах у часы змагання з мечаносцамі



Полацкі князь Усяслаў Брачыславіч (Чарадзей) у парадных строях

полацкі князь мусіў адмовіцца ад прэтэнзій на Ноўгарадчыну? Эймундава сага (сагамі называюць старажытныя скандынаўскія паданні) змяшчае зусім іншую версію падзеяў на Судоме: у палон трапіла жонка кіеўскага князя, таму кровапраліцця ўвогуле не было. У такім разе Віцебск і Усвят маглі стаць выкупам Брачыславу за вяльможную паланянку.

Сын Брачыслава славуты князь Усяслаў Чарадзей (1044—1101 гг.) працягваў традыцыйную полацкую экспансію ў бок Прыбалтыкі. (Экспансія — гэта пашырэнне ўладанняў.) У 1065 годзе яго дружыны напалі на Пскоў. А праз год палачане ўжо штурмавалі сцены самога Ноўгарада. Яны захапілі горад і знялі званы ў галоўным яго храме Святой Сафіі. Званы спатрэбіліся для толькі што збудаванай Полацкай Сафіі, якая была сімвалам незалежнасці і магутнасці гаспадарства. Праўда, Кіеў і на гэты раз імкнуўся не дапусціць узмацнення Полацка коштам сваіх земляў. Аб'яднаныя сілы трох князёў Яраславічаў напрадвесні 1067 года захапілі Менск, які тады знаходзіўся на вышнявіне ракі Пцічы. Яны вынішчылі абаронцаў горада і забралі ў палон жанчын і дзяцей. А трэцяга сакавіка таго года ў зацятай і крывавай бітве на Нямізе (на тэрыторыі сённяшняга Менска) перамаглі і дружыну самога Усяслава, які спяшаўся на дапамогу




Узбраенне палачан адзінаццатага— трынаццатага стагоддзяў

мянянам. Аднак на гэтым барацьба не скончылася. Воляю гістарычнага лёсу полацкі князь на нейкі час нават заняў вялікакняскі пасад у Кіеве. А праз два гады на ўзбярэжжы Фінскай затокі ён ужо ўзначаліў войска фінскага племя водзь і з ім зноў спрабаваў захапіць Ноўгарад.

Не прабіўшыся да Варажскага мора праз рэкі Ловаць і Волхаў, нашы продкі трапілі да яго ўзбярэжжа Дзвінскім шляхам — конна, пешкі, на караблях. Яны падпарадкавалі большасць латышскіх плямёнаў, а таксама фінскае племя ліваў, якое займала землі каля Рыжскай затокі. Адсюль наша дзяржава атрымлівала не толькі даніну, але і збройную дапамогу ў войнах з Кіевам. Для ўмацавання сваіх пазіцый на Ніжнім Падзвінні палачане збудавалі шэраг замкаў, сярод якіх вядомыя Кукенойс, Герсіка, Асота, Волінь. Пазней у тутэйшым краі ўтварыліся і невялікія крывіцкія княствы з сваімі валадарамі. Цяпер купцы маглі без перашкодаў гандляваць з краінамі Паўночнай і Заходняй Еўропы. Гэтым узрастала багацце і магутнасць Полацка.

Спрабавалі палачане рухацца да мора і праз Вяллю ды Нёман, хоць гэтыя рэкі былі і нязначным адгаліненнем шляху “з варагаў у грэкі”. Клін іх каланізацыі прасунуўся ажно за сённяшнюю Вільню. Апорнымі пунктамі тут былі Крывы Горад пры вусці Віленкі, Лоск (на поўначы Валожыншчыны) ды іншыя замкі.

У канцы трынаццатага стагоддзя германскія хрысціянскія місіянеры папрасілі ў тагачаснага полацкага князя Валодшы дазволу пасяліцца ў вусці Дзвіны, за гэта яны абяцалі яму “ліўскую даніну”. Князь дазволіў, што было ягонай страшнай памылкай. За святарамі з’явіліся рыцары. У 1201 годзе ў вусці Дзвіны быў закладзены горад Рыга і збудаваны




Аблога і штурм Ноўгарада ў 1066 годзе
дружынамі Усяслава Полацкага



Полацкі ваявода ў баявым рыштунку
і пешыя ваяры — лучнік, панцырнік
і апалчэнец

мураваны замак. А налета тут асталяваўся нямецкі ордэн манахаў-рыцараў, якія называлі сябе мечаносцамі. Узброеныя заморскія прыхадні пачалі ўзводзіць новыя замкі і прасоўвацца ўверх па Дзвіне і яе прытоках. Яны захоплівалі землі падпарадкаваных Полацку мясцовых плямёнаў. Полацкі князь Валодша і асабліва валадары тутэйшых княстваў арганізавалі супраціў гэтаму наступу. Сярод іх асаблівай стойкасцю і мужнасцю вызначыўся Вячаслаў (Вячка) Кукенойскі. Аднак латышскія апалчэнцы і полацкія дружыны ўрэшце вымушаныя былі адступіць перад высокімі каменнымі сценамі ды закаванымі ў жалеза рыцарамі. Да таго ж у 1216 годзе, якраз рыхтуючы вызваленчы паход на Рыгу, нечакана памёр полацкі князь Валодша. Па нейкім часе, абараняючы эстонскі горад Тарту, загінуў і Вячка. А праз паўстагоддзя ўся тэрыторыя Латвіі была захопленая мечаносцамі. І наша краіна, такім чынам, была адрэзаная ад Балтыкі. Ажно да другой паловы шаснаццатага стагоддзя.

Аднак гордыя палачане заўсёды памяталі, што іх продкі жылі ў дзяржаве, якая выходзіла да шырокага мора. Нездарма на старажытным гербе іх горада красуецца марскі трохмачтавы карабель з узнятымі ветразямі.




межы Вялікага Княства Літоўскага пры канцы княжання Альгерда

шлях войска Альгерда на Украіну

месца бітвы

# Бітва на Сініх Водах

У 1223 годзе на рацэ Калцы пры паўночным узбярэжжы Азоўскага мора адбылася першая сутычка аб'яднаных усходнеславянскіх і палавецкіх войскаў з татара-мангольскімі ордамі. Крывавая сеча скончылася паразай хаўруснікаў. У высокую стэпавую траву ляглі і дружыны з беларускіх княстваў. Праз 14 гадоў Бату-хан вынішчыў Разанскую зямлю, а ў 1240 годзе захапіў і Кіеў. Пачаўся татара-мангольскі прыгнёт, які доўжыўся ў Масковіі амаль два з паловай стагоддзі. Прыхадні з далёкіх азійскіх стэпаў спрабавалі захапіць і Беларусь. Але нашыя прадзеды паспелі згуртавацца, утварыўшы моцнае гаспадарства — Вялікае Княства Літоўскае. Да таго ж яны прайшлі суровую баявую школу ў змаганнях з рыцарамі нямецкіх манаскіх ордэнаў. Таму захопнікі былі спыненыя на Палессі і пад Смаленскам.

Калі наша дзяржава ўзмацнілася, яна распачала экспансію на суседнія абшары. Увагу князёў найперш прыцягнулі ўрадлівыя землі Украіны, што плаціла цяжкую даніну татара-мангольскай Залатой Ардзе. Да таго ж там жыло адзінавернае хрысціянскае насельніцтва, блізкае беларусам па мове.

Увосень 1362 года вялікі князь Альгерд, сабраўшы войскі, пераправіўся на правы бераг Прыпяці. Па дарозе на поўдзень да яго далучыліся з сваімі дружынамі сыны навагрудскага князя Карыята. Яны валодалі землямі на паўночным захадзе Украіны і таксама былі зацікаўленыя ў аслабленні татарскага панавання. Мінуўшы Канеў і Чаркасы, войскі выйшлі да ракі Сінюха (Сінія Воды). Гэта левабярэжны прыток Паўднёвага Буга. Там, як піша летапісец, "указалася ім у полю вялікая арда з трыма царыкамі, на тры абозы раздзеленая". Гэта былі татары, якія тады валадарылі ў Крыме, на Паўночным Прычарнамор'і і ў Падольскай зямлі. На чале іх былі ханы Кутлубуга, Качубей і Дзімітр.

Летапісныя звесткі не даюць дакладнага ўяўлення пра размяшчэнне татарскіх войскаў. Але трэба меркаваць, што яны размясціліся паводле свайго даўняга звычаю, заведзенага яшчэ вялікім палкаводцам і заваёўнікам Чынгіз-ханам. Наперадзе ў ардынцаў мусіў знаходзіцца авангард спрактыкаваных лучнікаў на конях. Яны пачыналі імклівую атаку, у часе якой засыпалі праціўніка хмарамі стрэлаў. Вострыя дзюбы гэтых стрэлаў забівалі вершнікаў, ранілі



Вялікі князь Альгерд Гедзімінавіч.
З старадаўняй гравюры

Ды Альгерд добра ведаў гэтыя хітрыкі. Убачыўшы, што ардынцы ўжо гатовыя да бою, ён паставіў свае войскі ў шэсць палкоў-гуфаў. Ён умацаваў флангі і выставіў авангард, “абы іх татары танцамі звыклымі агарнуці і стрэламі шкодзіці не маглі”.

Бітва, як звычайна, пачалася наскокам вершнікаў татарскага авангарду, якія “град жалезны з лукаў … густа пусцілі”. Але першы варожы націск не прынёс вялікай шкоды нашаму ваярству, дзеля яго “парадназа ўшыкавання і прудкага расступання”. Магчыма таксама, што беларускія ваяры шчыльна прыкрыліся шчытамі, утвараючы вядомую яшчэ з антычных часоў “чарапаху”. Адна-

іхных коней. Зрабіўшы сваю справу, лучнікі разварочваліся і прапускалі наперад другую хвалю лёгкаўзброенага авангарду, якая ўразалася ў прарэджаныя шыхты праціўніка.

Калі ж вораг быў шматлікі і вытрымліваў націск, гэтыя вершнікі паварочвалі і рабілі выгляд, што ўцякаюць. Разгарачаны “ўдала” пачатай бітвай праціўнік звычайна кідаўся наўздагон у прадчуванні блізкай перамогі. І тады татарскі авангард, завабіўшы пераследнікаў у глыбіню сваіх баявых парадкаў, расступаўся. Ён такім чынам адкрываў шлях для атакі цяжкаўзброенай конніцы, якая складала асноўную моц ардынскіх сціжмаў. Загартаваныя ў шматлікіх сечах вершнікі ў жалезных панцырах і шаломах пускалі ў справу сякеры, шаблі, дзіды. Адначасова лягчэйшыя татарскія загоны ахоплівалі флангі праціўніка, заходзілі з тылу, стараючыся абкружыць. Калі такая тактыка спрацоўвала, вораг звычайна выбіваўся дарэшты, як тады казалі, у пень.



Лёгкаўзброены вершнік войска Альгерда




Схема бітвы 1362 года на Сініх Водах

часова Альгерд паслаў нашую конніцу “з копіямі і шаблямі” ў імклівую сустрэчную атаку. Гэтая атака была падтрыманая знішчальнай стралянінай наваградцаў з нязвыклых для стэпавікоў кушаў-арбалетаў. Выпушчаныя з іх стрэлы з цяжкімі жалезнымі дзюбамі-бэлтамі ляцелі значна далей, чым з звычайных лукаў. Яны лёгка прабівалі ахоўнае татарскае ўзбраенне, нават і жалезнае.

Такім магутным націскам праламалася “чало” ардынскіх парадкаў. Тым часам былі нанесеныя і флангавыя ўдары. Татарскія шыхты змяшаліся “як снапы ад раптоўнага ветру”. Стэпавікі пачалі ўцякаць, засцілаючы трупамі палі і рэкі. Ляглі на пабаявішчы ўсе ардынскія “царкі”, шмат знаці. У рукі пераможцаў трапіла і вялікая здабыча — статкі жывёлы, вярблюды, абозы з дабром.

У выніку гэтай перамогі ды іншых поспехаў Альгерда паўднёвыя межы нашай дзяржавы перасунуліся з Кіеўшчыны — Прыкарпацця да дняпроўскіх парогаў. У абсягі Вялікага Княства былі ўлучаныя большасць земляў, заселеных украінскім земляробчым насельніцтвам, шматлікія вёскі і гарады. Беларуская конніца выйшла нават на берагі Чорнага мора ў вусцях Дняпра і Буга.

Разгром татараў на Сініх Водах паклаў канец больш як стогадоваму панаванню іх ва Украіне, распачаў вызваленне Усходняй Еўропы з-пад ардынскага прыгнёту.




мяжа Вялікага Княства ў Прыбалтыцы перад Грунвальдскай перамогай

шлях войска Вітаўта Вялікага

шлях войска Ягайлы

месца бітвы

землі Жамойці, вернутыя ў склад Вялікага Княства

# Бітва пад Грунвальдам

На пачатку трынаццатага стагоддзя ў Прыбалтыцы аселі нямецкія рыцары. Яны былі аб'яднаныя ў манаскія ордэны — вайсковыя арганізацыі рыцараў-манахаў. Ордэн крыжаносцаў, або тэўтонцаў, неабачліва запрошаны мазавецкім (польскім) князем, замацаваўся між нізавінамі Віслы і Нёмана. А ордэн мечаносцаў, або лівонцаў, на згоду полацкага князя атабарыўся на зямлі сённяшніх Латвіі ды Эстоніі.

Мазаўшанам рыцары абяцалі абарону ад паганцаў-прусаў, а палачанам — даніну з паганцаў-ліваў. Акрамя таго, полацкім купцам дакляравалі выгады ад гандлю з нямецкімі партовымі гарадамі. На справе ж рыцары не толькі заняволілі нехрысціянскія балцкія і фінскія народы Прыбалтыкі, але і пачалі наступ на ўласныя землі Беларусі і Польшчы. Гэтым распачалося збройнае супрацьстаянне нашых продкаў з германцамі, якое доўжылася больш за два стагоддзі.

Пасля Крэўскай вуніі 1385 года ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе склаўся магутны альянс (гэта значыць хаўрус) дзвюх славянскіх дзяржаў — Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Уладанні гэтага альянсу распасціраліся ад Балтыйскага да Чорнага мора і ад правабярэжных прытокаў Одры на захадзе да вышнявіны Волгі на ўсходзе. Вільня і Кракаў атрымалі магчымасць не толькі ўзгадняць замежную палітыку, але пры патрэбе і аб'ядноўваць свае збройныя намаганні. А патрэба была пільная — адпор нямецкаму рыцарству, асабліва крыжаносцам, якім ужо мала было прускай зямлі.

Крыжаносцы (або, як іх часта называюць, крыжакі) зразумелі, што гэтае аб'яднанне небяспечнае для іх. І таму ўзяліся гуртаваць сілы для канчатковага ваеннага паквітання. Заклікалі на дапамогу валадароў еўрапейскіх дзяржаў, збіралі за вялікія грошы і абяцаную будучую здабычу наймітӑў-авантурыстаў. Назапашвалі зброю, харчы, рыштунак.

З свайго боку і хаўруснікі рыхталіся да вялікай вайны. Каралю Уладзіславу Ягайлу абяцалі падтрымку чэхі, нашаму вялікаму князю Аляксандру Вітаўту — сын Тахтамыша, былога хана Залатой Арды. Наўзамен той спадзяваўся на дапамогу ў барацьбе за панаванне над волжскімі і данскімі стэпамі. Вялікае Княства ўмацавала свае ўсходнія рубяжы, вымусіўшы Маскву ўвосень 1408 года замірыцца. А тады ўсю



Вялікі князь Вітаўт Кейстутавіч. З старадаўняй гравюры

ўвагу зноў скіравала на Прыбалтыку. Таму тут, з ініцыятывы Вітаўта, на пачатку 1409 года пачалося антыкрыжацкае паўстанне жамойтаў.

Крыжакі, не чакаючы задзіночвання каралеўскіх і вялікакняскіх войскаў, улетку 1409 года напалі на паўночную Польшчу і захапілі вялікія абшары. Іх даўні прыхільнік вугорскі кароль Сігізмунд Люксембургскі не мог збройна ўмяшацца ў канфлікт. Ён спрабаваў пабурыць хаўрус, спакушаючы вялікага князя Вітаўта каралеўскай каронай. Але без поспеху. Да таго ж польскія войскі перайшлі ў наступ і адбілі шэраг гарадоў і замкаў. Праўда, абодва бакі яшчэ не падрыхтаваліся як мае быць да зацяжной вайны. Таму ўвосень было падпісанае замірэнне да наступнага лета.

Пры канцы 1409 года Вітаўт з Ягайлам на таемнай нарадзе ў Берасці выпрацавалі дэталёвы план будучых ваенных дзеянняў. Усю зіму і вясну ішла падрыхтоўка. У пушчах ладзіліся паляванні, каб назапасіць мяса дзічыны для шматтысячных войскаў. А ў канцы траўня 1410 года ў Горадню над Нёманам пачалі збірацца палкі-харугвы з усяго Вялікага Княства — з Беларусі, паўночнай Украіны і Летувы. Да іх далучыліся загоны татарскіх вершнікаў, аддзелы іншых хаўруснікаў.

30 чэрвеня, праз шэсць дзён пасля сканчэння замірэння, каля Чэрвінска на Вісле нашыя войскі злучыліся з польскімі. Іх лік тагачасныя летапісцы падаюць па-рознаму. Улічваючы іхную схільнасць да перабольшвання, гісторыкі мяркуюць, што Ягайла і Вітаўт прывялі пад сваімі сцягамі блізу 40—45 тысяч ваяроў. Уранку 6 ліпеня задзіночаныя войскі пераступілі прускую мяжу і пачалі рух углыб варожай тэрыторыі. Каля брадоў на рацэ Дрвенцы шлях ім заступілі крыжакі і нанятае еўрапейскае рыцарства.

Праціўнік займаў выгоднае становішча і быў поўнасцю падрыхтаваны да бітвы. Хаўруснікам жа трэба было пад гарматным і лучным абстрэлам пераходзіць водную плынь, пра-



Пячатка Вітаўта Вялікага пятнаццатага стагоддзя

дзірацца праз абарончыя частаколы, мячом здабываць плацдарм на другім беразе. Правільна ацаніўшы сітуацыю, Вітаўт і Ягайла павярнулі на ўсход, каб перайсці раку на вышнявіне. А ўначы з 14 на 15 ліпеня іхныя войскі былі пад Грунвальдам (у беларускіх летапісах гэтая вёска называецца Дуброўна), дзе ўжо размясціліся крыжацкія сілы. І з першымі промнямі сонца нашыя ваяры пачалі станавіцца ў баявыя шыхты.

Паміж невялікімі вёскамі Грунвальд (у перакладзе з нямецкай — Зялёны Лес), Танэнбэрг (Ялінавая Гара) і Людвігсдорф (Ладвігова) прасціралася шырокае поле будучай бітвы. Палкі-харугвы Ягайлы і Вітаўта трыма лініямі расцягнуліся паміж Ладвіговам і далінай рэчкі. Левае крыло займала 51 харугва каралеўскіх войскаў, складзеных у асноўным з палякаў. Былі ў ім таксама найміты з Чэхіі і Маравіі, а таксама некалькі харугваў з галіцкай Украіны. Сорак харугваў Вітаўта занялі пазіцыю праваруч ад палякаў. Сярод іх былі харугвы Віленская, Гарадзенская, Навагрудская, Лідская, Полацкая, Віцебская, Ваўкавыская, Берасцейская, Пінская, Старадубская, Дарагічынская,

Бітва пад Грунвальдам. Малюнак з хронікі Марціна Бельскага






Схема Грунвальдскай бітвы 1410 года

Смаленская, Мельніцкая, Кіеўская, Крамянецкая, Ковенская, Троцкая, Медніцкая, палкі гарадоў і ўдзельных князёў. 19 нашых харугваў летапісец не называе, але і так відаць, што бальшыня вялікакняскіх ваяроў паходзіла з беларускіх земляў. Яны выйшлі змагацца пад сцягамі з выявай нашага старажытнага герба "Пагоня", якія вялікі князь уручыў перад бітвай трыццаці сваім палкам.

На Грунвальдскіх палях насупраць шыхтоў Вітаўта і Ягайлы яшчэ з ночы сталі крыжакі з сваімі памагатымі, сабранымі з усёй Еўропы. Было іх каля 30 тысяч, гэта прыкметна меней, чым нашых войскаў. Аднак яны бралі вайсковым майстэрствам і ўзбраеннем. Да таго ж немцы моцна разлічвалі на артылерыю (блізу сотні бамбардаў), якую ў палявых умовах выкарыстоўвалі ўпершыню. Спадзяваліся таксама на заслон арбалетнікаў і на замаскаваныя воўчыя ямы, выкапаныя перад пазіцыямі.

Некалькі ранішніх гадзін бітва не распачыналася. Крыжакі не хацелі сыходзіць з узвышша. Хаўруснікі, маючы ў заплеччы лясістую мясцовасць, таксама не спяшаліся наступаць. Бо атака праз лагчыну на схілы ўзгоркаў ставіла іх у невыгоднае становішча.

Урэшце на рашучыя дзеянні наважыліся вялікакняскія харугвы, якія выкарысталі тактыку стэпавых ваяроў. Трэба было выцягнуць крыжакоў на сябе, парушыць іх закаваныя ў жалеззе шыхты. Таму ў пер-

шую атаку пайшлі лёгкаўзброеныя вершнікі і татары. Пад залпамі бамбардаў, бранябойнымі джаламі арбалетных стрэлаў, праз воўчыя ямы, трацячы сотні таварышаў, дасягнулі яны рыцарскіх шыхтоў. І закіпела сеча. Цяжка крануліся крыжацкія харугвы, рушылі наперад. Вялікі магістр Ордэна Ульрых фон Юнгінген убачыў, як адступаюць пярэднія харугвы Вітаўтавага войска. І скіраваў на іх галоўны ўдар.

Рыцарскія кліны набліжаліся ўжо да вялікакняскага абозу. Выцягнуўшыся наўскос, яны падстаўлялі свой бок удару цэнтральнай групоўкі хаўрусных войскаў. Аднак Ягайла пазніўся. Ён усё маліўся, мабыць спадзеючыся на нябесны цуд. І на крыле вялікакняскага войска склалася крытычная сітуацыя. Некаторыя харугвы ўжо адступалі па-сапраўднаму, не могучы даць рады нямецкаму націску. Іншыя ляглі пад цяжкімі крыжацкімі мячамі. На сутыку з польскім войскам сплывалі крывёю, але апантана секліся з ворагам смаленскі, амсціслаўскі і аршанскі палкі, узначаленыя князем Сымонам Альгердавічам.



Цяжкаўзброены беларускі рыцар з чырвонаколерным вялікакняскім сцягам і дзяржаўным гербам "Пагоня"

Гармата-бамбарда пятнаццатага стагоддзя на колах, адлітая з бронзы і прызначаная для страляння каменнымі ядрамі



Вітаўт паімчаў да караля, заклікаючы распачаць наступ і польскім левым крылом. Ягайла падаў знак сваім ваярам. Зайгралі баявыя трубы, і наперад рушылі каралеўскія рыцарскія харугвы. Наш вялікі князь зноў павярнуў на крыжакоў свае, хоць і парадзелыя, сілы, наносячы флангавы ўдар. У Грунвальдскай бітве наступіла імгненне найвялікшага напружання. Як пісаў тагачасны гісторык Ян Длугаш, усчаўся такі шум і грукат ад ламання дзідаў і ўдараў аб панцыры, нібыта бурылася нейкая вялізная будыніна, і такі моцны ляскат мячоў, што яго выразна чулі ў наваколлі за некалькі міляў. Нага наступала на нагу, панцыры грукалі аб панцыры, і вастрыі дзідаў кіраваліся ў твары

біліся, душаныя коньмі. І тады сярод змагароў самы адважны Марс (так старажытныя рымляне называлі бога вайны) мог быць заўважаны толькі па руцэ і мячы.

Былі моманты, калі здавалася, што перамагаюць ваяўнічыя тэўтонцы. Аднак нарэшце пад націскам нашых ваяроў на пабаявішчы адбыўся пералом. Крыжакам не дапамаглі нават рэзервовыя харугвы. Амаль усе яны былі абкружаныя і знішчаныя. Частка крыжакоў спрабавала ўратавацца ва ўмацаваным вазамі лагеры. Але тут іх дастала пяхота, складзеная з польскіх і беларускіх сялян, узброеных лукамі і сякерамі.



Колючая, сякучая і ўдарная зброя славянскіх ваяроў з-пад Грунвальда

ворагаў. Калі ж харугвы зышліся, то нельга было адрозніць нясмелага ад адважнага, мужнага ад баязліўца. Бо і тыя і другія згрувасціліся ў нейкі клубок. Немагчыма было ні перамяніць месца, ні прасунуцца на які крок, пакуль пераможца, скінуўшы з каня або забіўшы праціўніка, не займаў месца пераможанага. Нарэшце, калі дзіды былі пераламаныя, шэрагі таго і другога боку і панцыры з панцырамі гэтак шчыльна зышліся, што выдавалі пад ударамі мячоў і сякер страшэнны грукат, быццам молаты ў кузні. І людзі


Арбалетнік пачатку пятнаццатага стагоддзя. Арбалетнай стралой-бэлтам можна было прабіць рыцарскі жалезны панцыр і застрэліць лёгкаўзброенага ваяра на адлегласці паўкіламетра

Сяляне рыцараў у палон не бралі, бо па завядзёнцы таго часу не мелі права атрымоўваць за іх выкуп.

Тагачасныя гісторыкі і храністы адзначалі выдатную ролю ў бітве нашага вялікага князя. Вітаўт, мяняючы загнаных коней, без целаахоўнікаў, толькі з некалькімі набліжанымі, парадкаваў свае шыхты. Ён кіраваў іх на найбольш небяспечныя ўчасткі, натхняў да змагання, але паспяваў на дапамогу і польскім аддзелам.

Трэба аддаць належнае і тэўтонцам. Мала хто з іх кінуўся наўцёкі або прасіў літасці. Секліся апантана, лічачы за лепшае страціць жыццё, чым рыцарскі гонар. З сямі сотняў манахаў-тэўтонцаў жывых засталося толькі пятнаццаць. Палегла большасць военачальнікаў. Сам Юнгінген, змагаючыся нароўні з усімі, быў працяты дзідай нашага ваяра, імя якога засталося невядомым.

Крыху пазней вялікі змагар за свабоду чэшскага народа Ян Гус пісаў: “Весткі пра перамогу і годны хвалы мір такую радасць прынеслі майму сэрцу, што ні пяром апісаць, ні словам сваім выказаць як мае быць не здолею. Дзе ж іх мячы, закутыя коні, людзі ў панцырах, на якіх спадзяваліся? Дзе незлічоныя грошы ці скарбы? Сапраўды, усё страчана”.

І раней крыжакі часам цярпелі скрышальныя паразы. Але яны заўсёды знаходзілі сілы акрыяць ад няўдачы і працягвалі экспансію. І менавіта да лета 1410 года Тэўтонскі ордэн дасягнуў найбольшай магутнасці — яму, разам з хаўрусным Лівонскім ордэнам, належала ўсё ўзбярэжжа Балтыкі ад польскага Памор’я да Фінскай затокі на поўначы. Але Грунвальдская бітва аб’яднанымі намаганнямі перш за ўсё славянскіх народаў паклала канец германскаму націску на ўсход. Паводле мірнай дамовы 1411 года Ордэн траціў частку польскіх земляў і выплочваў вялізную кантрыбуцыю. Да Вялікага Княства вярталася Жамойць. Праз паўстагоддзя крыжакі вымушаны былі прызнаць вяршэнства польскага караля, а ў сярэдзіне наступнага, шаснаццатага, стагоддзя пад уладную руку Вільні папрасіліся і землі Лівонскага ордэна.



Вялікакняскі конны рыцар




шлях войска Міхайлы Глінскага
месцы начлегу беларускіх ваяроў
сутычкі з татарамі
месца бітвы
уцёкі татараў

# Бітва пад Клецкам

Пад канец пятнаццатага стагоддзя Вялікае Княства Маскоўскае, якое да гэтага было ўлусам, гэта значыць часткаю Залатой Арды, пазбавілася татара-мангольскага прыгнёту. І пачало супернічаць за панаванне ва Усходняй Еўропе.

У папярэднія стагоддзі тут сваю волю дыктавала наша гаспадарства — Вялікае Княства Літоўскае. Яно распасціралася ад Балтыкі да Прычарнамор'я, падступала да волжскіх берагоў. Яно рабіла паходы на самую Маскву. Яно прызначала сваіх стаўленікаў у Пскоў і Ноўгарад.

Цяпер жа сітуацыя змянілася. Хаўрус з Польшчай спрычыніўся да таго, што наша дзяржава пачала губляць нутраную моц. Усходняя ж суседка, пераняўшы сістэму ўлады ў сваіх былых азійскіх прыгнятальнікаў, умацоўвалася і пашырала сваю тэрыторыю. Маскоўскі князь Іван III правёў гэтым часам вайсковую рэформу. Ён павялічыў памеры свайго войска да 100 тысяч чалавек. Гэтакай вялізнай арміі не было тады ні ў кога ў Еўропе.

Да маскоўскай пагрозы з усходу далучылася і крымскататарская з поўдня. Асабліва калі ханы ў 1480 годзе ўчынілі з Іванам III вайсковае пагадненне.

Крымскае ханства, якое займала сам паўвостраў Крым і прылеглыя стэпы Прычарнамор'я, узнікла на руінах былой Залатой Арды. Яно пачало асабліва ўмацоўвацца ў другой палове пятнаццатага стагоддзя, калі стала залежным ад Турэцкай імперыі. Ад яе татары атрымоўвалі матэрыяльную і збройную дапамогу.

Жывучы непадалёку ад багатых земляробчых абшараў, прылеглых да Дняпра і Дуная, татары галоўным сваім заняткам зрабілі рабаўніцкія паходы. Яны захоплівалі плён працы мірных людзей, а таксама палонных, якіх прадавалі ў рабства. Спачатку нападалі на Украіну. А спустошыўшы Сярэдняе Падняпроўе, у канцы стагоддзя накіравалі хцівыя позіркі на поўнач Палесся. Там мясцовы люд ужо больш чым два стагоддзі не ведаў чужацкай навалы.

У 1497 годзе татары ўпершыню ўварваліся ў Беларусь і зруйнавалі Мазыршчыну. Ад гэтага часу і ажно да 1527 года яны зрабілі 12 буйных і драбнейшых наездаў на нашу зямлю.

Звычайна татары пачыналі паход у канцы лета — пачатку восені, калі ўжо быў сабраны ўраджай. Іх загоны, што налічвалі ад сотняў да некалькіх тысяч лёгкаўзброеных верш-

нікаў, рухаліся водападзеламі. Такі шлях быў зручны тым, што не трэба было пераплываць рэкі. Дасягнуўшы пэўнага месца, яны станавіліся лагерам — кошам. А пасля рассыпаліся на меншыя загоны, спусташалі блізкае і далёкае наваколле. У Крым вярталіся абцяжараныя здабычай, ведучы палон-ясыр, гонячы захопленую жывёлу. Напады рабілі імкліва і на нечаканых кірунках, каб нашыя людзі не паспелі арганізавацца і даць адпор. Найбольш цярпелі ад рабаўнікоў вёскі і мястэчкі. Гарады ж звычайна вытрымлівалі аблогі і прыступы стэпавікоў. Бо тыя не любілі дый не ўмелі штурмаваць сцены і вежы.

Найбольшая пагроза для краіны была тады, калі паходы татараў супадалі з нашэсцем маскоўскіх войскаў. Калі ж нашыя продкі паспявалі сабрацца і збройна выступіць супраць стэпавых драпежнікаў, яны білі іх нават у чыстым полі. Знішчалі іхныя кашы, вызвалялі людзей, узятых у палон. Большыя або меншыя паразы цярпела ў сярэднім кожнае другое татарскае ўварванне ў Беларусь. Асабліва паказальным быў 1506 год.



Беларускі пяхотнік з ручной агняпальнай зброяй — рушніцай, у якой порах запальвалі з дапамогай кноту

У сярэдзіне лета сыны крымскага хана "царэвічы" Біці і Бурнаш з шматтысячнай конніцай уварваліся на поўдзень Беларусі. Было іх каля 20 тысяч. Затым, падзяліўшыся на загоны, пачалі спусташаць край. Якраз тады вялікі князь Аляксандр Казіміравіч сабраў сойм магнатаў і шляхты ў Лідзе. У часе паседжання сойму і прыйшлі трывожныя весткі. А татары былі ўжо каля Навагрудка, некаторыя нават пераправіліся на правы бераг Нёмана. Аляксандр, спаралізаваны цяжкой хваробай, не мог узначаліць адпор. Паклікаўшы да сябе паноў-раду, ён усклаў гэтыя абавязкі на гетмана Станіслава Кішку. Сябе ж загадаў занесці на насілках у Вільню пад абарону нядаўна абноўленых муроў.

А час вымагаў актыўных дзеянняў. Крымчакі ўжо рассыпаліся па Лідчыне і, як пісаў летапісец, "ваявалі цэрквы божыя, і двары вялікія, і весі зажыгалі, і людзей імалі і забівалі". Паслы ў сойм, а таксама баярства-шляхта з блізкага і далёкага наваколля дый усе, хто мог валодаць шабляй, сабраліся разам. " І мала ці многа — усе як адзін адну раду і ўмысл палажылі: узяўшы Бога на помач, толькі пайсці і біцца з імі". Некалькі лепшых рыцараў адразу ж выправіліся на выведку. Татараў сустрэлі непадалёку Ліды. І ў кароткай сутычцы разбілі іх. Нашы ваяры з палоннымі і адсечанымі па тага-



Цяжкаўзброены беларускі рыцар пачатку шаснаццатага стагоддзя

часнай завядзёнцы галовамі ў торбах вярнуліся ў горад. Першы поспех акрыліў войска, і яно конна рушыла да Наваградка. Тут запыніліся на тры дні, збіраючы падмогу з замкаў і баярскіх двароў. Акрамя таго неабходна было даведацца, дзе залеглі кошам асноўныя татарскія сілы. Дзе яны звілі сваё разбойніцкае гняздо? Лёгкія загоны вершнікаў разгарнуліся па ўзгорыстай Наваградчыне і пад Гарадзішчам, што ў кірунку Баранавічаў. Баяры Юрай і Андрэй Неміровічы з сваімі людзьмі захапілі шасцёх палонных. Тыя доўга не трымалі таямніцы: сыны хана з галоўным войскам стаяць пад Клецкам, а шмат якія загоны яшчэ не вярнуліся ў кош.

Адслухаўшы малебны ў праваслаўных і каталіцкіх бажніцах горада, 4 жніўня 1506 года перад самым змяркannем войска выправілася з-пад сцен Наваградскага замка. Цяпер яго набралася ўжо да 10 тысяч вершнікаў.

Ішлі на паўднёвы ўсход. У недалёкім мястэчку Асташын заначавалі. А нараніцу прымчалі на ўзмыленых конях баяры з навакольных двароў. Яны ўцякалі ад татараў, якія гойсалі па акрузе.

Пастанавілі, што расцярушваць войска, каб вынішчаць невялікія групы рабаўнікоў, не мае сэнсу. Трэба было біць у самы асяродак ворагаў. Таму, не адхіляючыся, працягвалі шлях — на Цырын, Паланечку, Ішкальдзь, міналі папялішчы вёсак. За Ішкальдзяй авангард дагнаў даволі значную татарскую сцікму на паўтысячы вершнікаў, абцяжараную

здабычай і палонам. Толькі жменька іх уратавалася, уцякаючы цераз раку Ушу каля Крутога Берага. Недабіткі прыбеглі да Клецка, несучы трывожную вестку пра набліжэнне беларускага войска.

Перад Молевам, у вёсцы Ліпа, нашы ваяры заначавалі зноў. А наraніцу высветлілася, што гетман цяжка захварэў і нават не можа сесці на каня. Трэба было тэрмінова прызначаць іншага правадыра, бо да татарскага коша заставалася ўжо нейкіх 15 кіламетраў. Тады параіліся і даручылі гетманства на час бітвы маршалку Міхайлу Глінскаму, трыццацішасцігадоваму князю, які сам па мячы (гэта значыць, па мужчынскай лініі) паходзіў з беларускіх татараў.

Затым войска пастала ў палкігуфы і рушыла да Клецка, гатовае да бою. Ішлі насцярожаныя, бо кожную хвіліну можна было чакаць наскоку хуткай татарскай конніцы. Да абеду дасягнулі вёскі Красны Стаў на Лані і з прыбярэжнага пагорка ўбачылі, што за ракой ужо стаяла падрыхтаваная да бітвы арда.

Напачатку ўсчалася перастрэлка цераз раку, якая доўжылася тры гадзіны. Тут перавага была на баку нашых ваяроў. Бо яны мелі не толькі лукі, але і агняпальную зброю — некалькі гарматаў і рушніцы. Пад такой моцнай заслонай удалося загаціць дзве пераправы цераз Лань.

Аднак спачатку ў нашым войску выявілася няўзгодненасць. Яго правы фланг заўчасна перабраўся на другі бераг. Убачыўшы гэта, татары кінулі туды сваіх лепшых сечкароў. Тыя ўдарылі па нашых яшчэ не разгорнутых гуфах. Склалася крытыч-

Схема бітвы 1506 года пад Клецкам





Выява старадаўняга Клецка з замкам і падзамчышчам. Паводле гравюры Тамаша Макоўскага пачатку сямнаццатага стагоддзя

ная сітуацыя. Пад стрэламі і шаблямі пачалі гінуць людзі. Тады Глінскі паскорыў пераправу войска левай рукі, якое і атакавала ўпоперак татарскіх загонаў. Загартаваная ў ранейшых бітвах з маскоўцамі, у жалезных панцырах, баярская конніца прасекла ардынскія шыхты і падзяліла іх напалам. Ачулася і войска правай рукі, націснула на татараў з поўдня.

Наступ быў такі нястрымны, што ворагі ўжо і не думалі пра сечу. Адзінае, што заставалася тым, хто ацалеў, у тым ліку і "царэвічам" — паратунак уцёкамі. Як сведчыў летапісец, "князь Міхайла з усім войскам гнаў за імі, імаючы і забіваючы да ракі Цабры. І як прыбеглі татарове да Цабры, тады мала не ўсе ў рацэ патанулі. Так многа татараў і іх коней у рацэ ды балоце было, што літва (так даўней звалі беларусаў) пераязджала на конях і пешы пераходзілі па мёртвых цялесах татарскіх і коней іх". Уцекачоў пераймалі і нішчылі каля Слуцка, Петрыкава і на Украіне. Толькі жменька іх дабралася да Крыма.

Войска Глінскага вызваліла шматтысячны палон, завалодала татарскім дабром і табуном з 30 тысяч коней. Яно яшчэ некалькі дзён стаяла пад Клецкам. Высякала татарскія загоны, што вярталіся ў кош, якога ўжо не было.

Уражаны знішчэннем лепшых сваіх сілаў, крымскі хан Менглі-Гірэй тэрмінова пачаў перамовы пра замірэнне. І хоць пазней наша краіна часам цярпела ад татарскіх нападаў, але здаралася ўжо гэта шмат радзей. Клецкая бітва мела вялікае значэнне ў айчыннай гісторыі. Слаўная перамога нашых прадзедаў засталася не толькі ў пісьмовых крыніцах, але і ў людской памяці. Яшчэ ў дзевятнаццатым стагоддзі на колішнім пабаявішчы пад Клецкам узвышаўся крыж. Яго паставілі мясцовыя жыхары ў памяць аб перамозе і на заспакаенне душ палеглых. А ў 1996 годзе тут узведзены помнік.




усходняя мяжа нашай краіны
пасля захопу маскоўцамі Смаленшчыны
стан вялікага князя Жыгімонта Старога
шлях войска Кастуся Астрожскага
сутычкі з маскоўцамі
месца бітвы

# Бітва пад Воршай

Пачатак шаснаццатага стагоддзя быў асабліва цяжкі для нашай дзяржавы. Яна ўжо каля двух дзесяткаў гадоў знаходзілася ў стане вайны з Масквой. Да гэтага часу былі страчаныя многія землі на Браншчыне і ўсходняй Гомельшчыне. А ў ліпені 1514 года капітуляваў Смаленск.

Каб замацаваць свой поспех, маскоўскі валадар Васіль III паслаў вялізнае войска ўглыб Беларусі — на Амсціслаў, Менск. Аднак насустрач яму ўжо рухалася наша армія і дапаможны польскі корпус. Сам кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары быў пры сваім войску. Праўда, валадар дзяржавы не імкнуўся кіраваць ваеннымі дзеяннямі. Як чалавек разважлівы, ён выправіў наперад трыццаць тысяч ваяроў пад кіраўніцтвам найвышэйшага гетмана Кастуся Астрожскага.

27 жніўня 1514 года Астрожскі барысаўскім шляхам падышоў да Бярэзіны і сустрэў на яе левым беразе пешыя маскоўскія палкі, што ішлі ў бок Менска. Пад прыкрыццём гармат і рушніцаў нашы ваяры пераправіліся цераз раку і адразу ўступілі ў бітву, а затым і разграмілі ворага. На наступны ж дзень авангард Астрожскага разбіў маскоўскую старожу на берагах Бабра, а 1 верасня — на Друці.

Ваяводы Васіля III, не ведаючы напачатку сапраўднай колькасці нашых войскаў, адвялі свае сілы за Дняпро, каб даць генеральную бітву на зручным для сябе месцы. Восемдзесят тысяч маскоўскіх ратнікаў занялі пазіцыю на ўзгорках непадалёку Воршы, на захад ад рэчкі Крапіўны, паміж вёскамі Шугай-



Найвышэйшы гетман Кастусь Астрожскі. Малюнак паводле старадаўняй карціны невядомага мастака

лава і Рукліна. Галоўны ваявода Іван Чаляднін размясціў свае палкі трыма выцягнутымі лініямі, пакінуўшы наперадзе прастору для Астрожскага. Гэта была ідэальная пастка для праціўніка, які рызыкне пераправіцца цераз Дняпро — за спіной і на флангах лука ракі, а па фронце ўзвышалася сцяна маскоўскіх ратнікаў.

7 верасня нашыя войскі падышлі да Дняпра паблізу Воршы. Аднак пачынаць пераправу навідавоку, пад лучным боем, не выпадала. Былі б вялікія страты, да таго ж маскоўскія ваяводы зразумелі б, што людзей у Астрожскага амаль утрая меней.

Каб заблытаць праціўніка, гетман пусціў бродам толькі невялікую частку конніцы. Другая пераплыла раку пад прыкрыццём Аршанскага замка. Калі ж сцямнела, асноўныя сілы пайшлі ўверх па Дняпры і пачалі перапраўляцца цераз раку па ўзведзеным наплыўным мосце каля вёскі Пашына. Вядома, на світанку рух палкоў-харугваў быў заўважаны, але Чаляднін не пачынаў атакі. Ён чакаў, калі наша войска пераправіцца цалкам, каб адным разам знішчыць яго і гэтым пераможна скончыць вайну. “Пачакаем, пакуль пераправяцца ўсе, — заявіў саманадзейны масковец, — бо нашы сілы нагэтулькі вялікія, што мы без асаблівых намаганняў зможам ці разбіць гэтае войска, ці абкружыць яго ды гнаць, як жывёлу, да самой Масквы”.

А тым часам Кастусь Астрожскі рыхтаваўся да бітвы. Наперадзе ён паставіў два конныя палкі і пяхоту з агнявой зброяй. Вершнікі размяшчаліся і ў другой лініі. Флангі трымалі палкі конніцы з лягчэйшым

Схема Аршанскай бітвы 1514 года





Кастусь Астрожскі ў Аршанскай бітве.
Фрагмент тагачаснай карціны

узбраеннем. Аднак менавіта на правым краі на ўзлеску гетман прыхаваў пад аслонай пяхоты артылерыю.

Бітва пачалася раніцай 8 верасня 1514 года. Астрожскі вольна рушыў шыхты вершнікаў, быццам правакуючы праціўніка. Гэта падзейнічала на маскоўцаў, і яны пайшлі ўперад. Разгарэлася сеча. Крытычнае становішча склалася на левым краі. Але нашы ваяры вытрымалі, а затым і пераламалі ход змагання на гэтым участку. Асабліва вызначылася пяхота з рушніцамі ды цяжкаўзброеная конніца. Мужны гетман на баявым кані і з непакрытай галавой з першай хвіліны быў у самых адказных месцах. Кіраваў бітвай, натхняючы ваяроў прыкладам і словам: “Гэй! Вось цяпер наперад, дзеці!”. Выдатна праявілі сябе і іншыя камандзіры — Юрай Радзівіл, Іван Сапега, Януш Свярчоўскі.

Іван Чаляднін, думаючы, што нашы асноўныя сілы скаваныя сечай каля Шугайлава, узмацніў дзеянні свайго другога крыла. Войска Астрожскага, нібыта не вытрымаўшы націску велізарнай масы баярскай конніцы, пачало адступаць да лесу. Вось ён, жаданы час перамогі! — думалі маскоўцы. Але нечакана “ўцекачы” расступіліся і нападнікі апынуліся перад артылерыяй і пяхотай з рушніцамі. Залпы ва ўпор рабілі ў іх шчыльных шэрагах жахлівыя спусташэнні. Быццам віхор клаў лес.

І маскоўскае войска паказала спіны, ратуючыся роспачнымі ўцёкамі. А за ўцекачамі, секучы, колючы, дратуючы, рушыла наша імклівая конніца. Асабліва лютая сеча была на Крапіўне. Як сцвярджалі тагачаснікі, скрываўленая рэчка запаволіла свой бег ад мноства целаў чужынцаў.

"И бысть неспособие Божие москвичам" — бедаваў потым маскоўскі летапісец. Ды такое "неспособие", што каля паловы войска Васіля III лягло на аршанскіх палях, патапілася ў Дняпры і Крапіўне. Нашы ж страты налічвалі меней за паўтысячы забітымі. У рукі пераможцаў трапіў маскоўскі абоз, агняпальная зброя, усе баявыя сцягі. 20 тысяч захопленых коней і палову абозу Астрожскі загадаў раздаць сваім ваярам. Сярод больш як пяці тысяч палонных былі і амаль усе ваяводы, у тым ліку сам Іван Чаляднін.

Аршанская перамога тым разам не вярнула Вялікаму Княству Літоўскаму захопленага Смаленска. Але яна стала яскравай старонкай беларускай ваеннай гісторыі. Заняла адно з першых месцаў у шэрагу бліскучых трыумфаў нашай зброі.

Больш як у 60 бітвах перамагаў Кастусь Астрожскі, але Ворша была найслаўнейшай. Тут найбольш праявіўся яго палкаводчы геній. Тут напоўніцу было скарыстанае ўменне адпаведна сілам працiўніка паставіць уласныя шыхты, нанесці ўдары ў патрэбным кірунку, навязаць ворагу сваю тактыку. Гетман ужыў фактар нечаканасці, максімальна выкарыстаў моц агняпальнай зброі



Пераправа беларускай артылерыі цераз Дняпро на Аршанскае пабаявішча. Малюнак паводле карціны пачатку шаснаццатага стагоддзя



Вершнік войска Кастуся Астрожскага

ў вырашальны момант і асабістай мужнасцю натхняў ваяроў на гераічны чын.

Вестка пра Аршанскую перамогу разнеслася па ўсёй Еўропе. Яна трапіла на старонкі многіх хронік і летапісаў. У двары тамтэйшых валадароў павезлі вяльможных палонных маскавітаў. Амаль адразу пасля падзеяў пад Воршай невядомы мастак намаляваў каляровую карціну. Мяркуючы па незвычайнай падрабязнасці выканання, ён быў на той бітве, ці карыстаўся кансультацыямі яе ўдзельнікаў. На вялікім палатне адначасова паказаны розныя эпізоды бітвы — ад яе пачатку да ўцёкаў маскоўцаў. Кастусь Астрожскі таксама змешчаны ў трох ключавых месцах пабаявішча. А над нашымі войскамі трапечуцца бел-чырвона-белыя сцяжкі-прапары.

Пазней, пасля таго як наша краіна страціла незалежнасць, акупанты 200 гадоў рабілі ўсё магчымае, каб народ забыўся на Воршу. А народ памятаў і спяваў:

Ой, у нядзельку параненька
Узышло сонца хмарненька,
Узышло сонца над борам,
Па-над Селецкім таборам.
А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае нарады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршу здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
Ані з поля, ані з лесу,
Толькі з рэчкі невялічкі.
А ў нядзелю параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы.
Гучаць разам з самапалаў,
З сяміпалых ад запалаў.
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці,
А як з Воршы ўцякалі,
Рэчку невялічку праклінали:
"Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як нашая слава тутака прапала.
Бадай высыхала да сканчэння свету,
Што нашай славанькі ўжо нету".
Слава Воршы ўжо ня горша.
Слаўся, пан Астрожскі!




паўночна-ўсходняя мяжа нашай краіны перад вайной
мяжа, што аддзяляла часова захопленыя маскоўцамі землі
перамяшчэнне войска Мікалая Радзівіла Рудога
шлях маскоўскіх войскаў
планаваны рух варожых войскаў на Менск і Наваградак
месца бітвы

# Бітва на Іван-полі

Маскоўскі цар Іван Жахлівы працягваў захопніцкую палітыку сваіх папярэднікаў. У канцы 50-х гадоў шаснаццатага стагоддзя ён заваяваў Паволжа. Пасля павярнуў меч у бок Прыбалтыкі, спрабуючы "прасекчы" выхад да незамярзальнага мора. Перад ім знаходзіліся аслабленыя нутранымі супярэчнасцямі Інфлянты, або, іначай кажучы, Лівонія (гэта сучасныя Латвія і Эстонія). І ў 1558 годзе вялізная маскоўская арда пачала нашэсце на захад.

Нешматлікія інфлянцкія загоны не змаглі стрымаць наступ шматкроць перасяжных сілаў праціўніка. Пад агнём царскай артылерыі, кіраванай наймітамі-немцамі, бурыліся сцены гарадоў і замкаў. Захопнікі нішчылі, рабавалі, выводзілі ў палон насельніцтва. Каму ўдалося ацалець, шукалі паратунку ў пушчах і балотах. Непакорных саджалі на кол, з іх жыўцом здзіралі скуры. Такога спусташэння і жаху край не ведаў за ўсю сваю гісторыю.

Пры канцы лета наступнага года, калі значная частка Эстоніі і Латвіі ляжала ў руінах і папялішчах, інфлянцкія паслы з'явіліся ў Вільні прасіць у Вялікага Княства Літоўскага выратавання. Наўзамен дакляравалася ўваходжанне Прыбалтыкі ў склад нашага гаспадарства ў якасці аўтаномнай часткі, з захаваннем самакіравання.

Цяжкі выбар быў перад вялікім князем, нашымі магнатамі і шляхтай. Канчатковы захоп Ніжняга Падзвіння Масквой пагражаў тым, што смяротная небяспека была б не толькі на нашых усходніх рубяжах, але і паўночных. А ў дадатак трэба было ўлічваць і заўсёдную крымскую небяспеку з поўдня. У выпадку ж поспехаў у Інфлянтах Беларусь вяртала сабе колішні водны шлях у Балтыйскае мора.

Але паслухацца просьбаў прыбалтаў азначала і немінучую крывавую



Вялікакняская срэбная манета 1546 года з выявай дзяржаўнага герба "Пагоня". Віленскі манетны двор

Вялікі гетман Мікалай Радзівіл Руды
ў рыцарскім панцыры.
Гравюра з радзівілаўскага альбома

сутычку з бязлітасным ворагам, уступленне ў распачатую Іванам Жахлівым Інфлянцкую (ці, як яе інакш называюць, Лівонскую) вайну...

І выбар быў зроблены. Землі Латвіі і Эстоніі далучыліся да Вялікага Княства, а беларускія войскі ўвайшлі ў Ніжняе Падзвінне.

Тым часам Іван Жахлівы замірыўся з Швецыяй, якая захапіла частку эстонскага ўзбярэжжа. Пераканаўшыся таксама, што крымскія татары ўжо не пагражаюць паўднёваму памежжу Маскоўшчыны, ён пачаў энергічна рыхтавацца да паходу на Беларусь.

У студзені 1563 года васьмідзесяцітысячнае маскоўскае войска, узначаленае самім царом, рушыла на Полацак. Горад не вытрымаў аблогі. Пасля жорсткіх артылерыйскіх абстрэлаў гарнізон здаўся.

Пасля падзення Полацка баявыя дзеянні на некалькі месяцаў прыціхлі. Адбываліся толькі дробныя сутычкі. Нават пачаліся былі перамовы. Нашыя паслы патрабавалі пакінуць у спакоі Інфлянты. Патрабавалі вярнуць Смаленшчыну і заходнюю Браншчыну, а таксама Пскоў і Ноўгарад, якія ў часы Вітаўта былі залежныя ад Вялікага Княства. Масква ж дамагалася не толькі Прыбалтыкі, але і земляў Беларусі разам з Вільняю, а таксама Украіны.

У студзені наступнага 1564 года маскоўцы распачалі новую вайсковую кампанію. Дзве варожыя арміі — з боку Полацка (25—30 тысяч) і з-пад Смаленска (каля 50 тысяч) — павінны былі злучыцца на Аршаншчыне і затым ісці на Менск, Наваградак і на самую сталіцу нашай дзяржавы — Вільню.

Полацкая групоўка маскоўцаў рухалася па левабярэжжы Вулы, выцягнуўшыся па заснежаным шляху. На чале яе быў князь Пётр Шуйскі, які да гэтага праславіўся перамогамі ў Прыбалтыцы. Вялікі гетман Мікалай Радзівіл Руды і палявы гетман Рыгор Хадкевіч, маючы пад рукой трохі больш як 4 тысячы вершнікаў,

Атрыбуты вайсковай улады: аздобленая каштоўнымі камянямі гетманская булава і буздыган (шастапёр) афіцэра — ротмістра або палкоўніка

а таксама невялікую колькасць казакоў і ўзброеных сялян, намерыліся перашкодзіць небяспечнаму злучэнню праціўніка.

Нашае войска было малалікае, але вопытнае і загартаванае ў паходах. Сярод камандзіраў вылучаліся такія слаўныя ваяры, як пляменнік палявога гетмана Ян Хадкевіч, князь Багдан Саламярэцкі, Раман Сангушка, Богуш Карэцкі, Мікалай Сапега, Юрай Зяновіч, Юрай Тышкевіч — усе з славутых беларускіх родаў.

Ведаючы праз выведку аб перамяшчэнні Шуйскага, увечары 26 студзеня 1564 года Мікалай Радзівіл прыхаваў ад вачэй праціўніка галоўныя сілы і невялікім загонам атакаваў маскоўскі авангард. Беларусы ўвязаліся ў сечу, а затым пачалі адступаць, завабліваючы за сабой самаўпэўненага праціўніка. Гэтым адкрылася прастора для кідка масы конніцы на самую калону, якая ўжо падцягвалася да вёскі Іванск каля Чашнікаў. Маскоўцы, мабыць, рыхтаваліся стаць лагерам, бо ішлі спакойна, зброю везлі на санях, не чакалі небяспекі.

З'яўленне ж радзівілаўцаў было як гром сярод зімовай цішы. Лава вершнікаў з дзідамі і шаблямі абрынулася на акупантаў так імкліва і нястрымна, што тыя не ведалі, як ратавацца. Ім не было калі ні станавіцца ў баявыя парадкі, ні хапацца за зброю, каб бараніцца. Заставалася толькі панічна кінуцца наўцёкі.

І цэлую светлую месячную ноч вершнікі, як пісаў тагачасны гісторык, "секлі маскалёў", не даючы ім апамятацца, знішчаючы ўцекачоў, заганяючы на тонкі рачны лёд.

Да Полацка дамкнула толькі 5 тысяч маскоўцаў, "і то параненых". Рэшта на шмат кіламетраў уздоўж




Схема бітвы 1564 года на Іван-полі

Вулы лягла на снег, некалькі тысяч утапіліся ў ледзяной рачной вадзе. Невялікая частка трапіла ў палон. Пад сякерай мясцовага селяніна скончыў жыццё сам няўдаліца Шуйскі. Паводле іншых звестак, яго

знайшлі з прабітай стралою галавой у калодзежы. Засталіся на пабаявішчы Шарамеццевы, Празароўскі ды іншыя маскоўскія ваяводы, князі, вяльможныя баяры. Імёнаў жа простых ратнікаў ніхто і не ўспамінаў. Яшчэ праз 20 гадоў пасля бітвы падарожнікі бачылі пад Іванскам мноства касцей палеглых маскоўцаў.

З беларускага ж боку, як сведчыла данясенне нашых гетманаў, загінула не больш як 20 ваяроў! Параненых было каля 700. У руках пераможцаў апынуўся і ўвесь велізарны абоз праціўніка, артылерыя, мноства коней.

Такім вось славутым чынам было цалкам скончана з полацкай групоўкай царскіх войскаў. Заставалася смаленская, значна большая, якую вёў князь Пётр Абаленскі-Сярэбраны.

Невялікую частку свайго войска Мікалай Радзівіл накіраваў пад Воршу. Яе ўзначалілі аршанскі староста Філон Кміта-Чарнабыльскі і амсціслаўскі ваявода Юрай Осцік. Каб не выпрабоўваць лёсу, Кміта-Чарнабыльскі намерыўся выкарыстаць новую хітрасць.

Ён накіраваў у Дуброўну ганцоў з весткамі аб перамозе на Іван-полі. Шлях наўмысна быў выбраны праз занятую праціўнікам тэрыторыю.

Беларускія ваяры
сярэдзіны шаснаццатага стагоддзя



Ганцы адпаведна трапілі ў рукі маскоўцам, і тыя даведаліся, што злучацца ўжо няма з кім, што войска Шуйскага разбітае. Пачалася паніка. А тут паказаўся аддзел беларускіх вершнікаў... Захопнікі падумалі, што гэта падыходзіць Радзівіл з усёй сваёй сілай. І войска Абаленскага-Сярэбранага кінула абоз з 25 тысяч вазоў, тысячы коней, баявы рыштунак ды спехам пачало адступаць да Смаленска.

Неўзабаве Вільня ўрачыста вітала пераможцу Мікалая Радзівіла, які ўехаў у сталіцу на кані Шуйскага. Цела ж самога царскага ваяводы з усімі хрысціянскімі пашанотамі было пахаванае ў віленскай царкве Багародзіцы. Па-людску абышліся і з палоннымі. Вяльможных трымалі ў замках, простых за харч і апратку выкарыстоўвалі на розных работах. Тыя ж з баяраў, хто згадзіўся на службу Вялікаму Княству, атрымалі зямельныя надзелы.

Калі весткі пра няўдачы маскоўцаў у Беларусі дайшлі да Івана Жахлівага, ён тым часам баляваў. Цар раз'юшыўся і з сваімі п'янымі застольнікамі выразаў у крамлёўскіх сутарэннях больш за сотню палонных палачанаў.

Бітва на Іван-полі (часта яе называюць таксама бітвай на Вуле) была нашай першай вялікай перамогай над сціжмамі маскоўскага цара ў Інфлянцкай (Лівонскай) вайне. Яна перакрэсліла планы маскоўцаў на паход у цэнтральныя землі Вялікага Княства, стала натхняльным прыкладам у далейшых нялёгкіх змаганнях. Ажно пакуль шабля Сцяпана Батуры не ўціхамірыла ўсходняга драпежніка.



Крылаты гусар
з войска Мікалая Радзівіла Рудога




дзяржаўныя межы перад Інфлянцкай вайной

мяжа, што аддзяляла часова захопленыя маскоўцамі землі

шлях войска Сцяпана Батуры

месца бітвы

вернутыя да нашай краіны даўней захопленыя землі

# Бітва за Полацак

Полацак знаходзіўся ў руках маскоўскага цара Івана Жахлівага больш за шаснаццаць гадоў — ад 1563 да 1579 года. Нашу старажытную сталіцу маскоўцы зрабілі стратэгічным цэнтрам сваіх планаў заваёвы Беларусі. Вынішчыўшы або вывеўшы ў палон значную частку палачан, акупанты асадзілі ў горадзе моцны гарнізон. Стральцы атабарыліся тут нават з сем'ямі, абнавілі ўмацаванні, разбудавалі новыя. Яны мелі шматлікую артылерыю, вялікія запасы пораху і харчоў.

Вайна гэтая была для Беларусі надзвычай спусташальнай. Паводле словаў віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла, "вораг быў на нашым хрыбце". Ён руйнаваў гарады, паліў вёскі, забіваў нявінных людзей, выганяў на чужыну. Справіцца з ім нашаму войску аднаму было вельмі цяжка. Таму давялося прасіць дапамогі ў палякаў.

Умовы, прапанаваныя Польшчай, былі для нас вельмі нявыгадныя. Але, каб уратаваць сваю краіну ад паняволення чужынцамі, нашы прадзеды змушаныя былі пагадзіцца на іх. І вось у 1569 годзе ў польскім горадзе Любліне было падпісанае пагадненне аб уніі (аб'яднанні) Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. Гэтае аб'яднанне называлася Рэч Паспалітая Абодвух Народаў.

На жаль, спадзяванні на вунію не спраўджваліся. Палякі не спяшаліся на дапамогу. Па-ранейшаму Беларусь, высільваючыся, змагалася з маскоўскай навалай практычна ў адзіноце. Становішча карэнна змянілася пасля таго, як у 1576 годзе нашым вялікім князем і польскім каралём стаў таленавіты палітык і военачальнік Сцяпан Батура. Ён урачыста паабяцаў вярнуць усе захопленыя ворагам землі.

Першы вызваленчы паход пастанавілі павесці на Полацак. Частка магнацтва схілялася да таго, каб засяродзіцца на вайне ў Інфлянтах. Але менавіта гэтага і чакаў Іван Жахлівы, сцягнуўшы большасць войскаў у Пскоў. Да таго ж Прыбалтыка была ўжо нагэтулькі спустошаная, што не магла пракарміць вялікае войска. Кароль настояў на полацкім кірунку, бо гэта было б нечаканасцю для цара. Акрамя таго, Полацак быў ключом да ўсяго Падзвіння, і яго вызваленне вельмі аслабіла б пазіцыі маскоўцаў у Латвіі і Эстоніі.

Улетку 1579 года саракатысячнае войска сабралася ў Свіры на Мя-



Вялікі князь Вялікага Княства і кароль Польшчы Сцяпан Батура. Малюнак паводле партрэта шаснаццатага стагоддзя

дзельшчыне. Гэта была найлепшая пяхота і конніца нашай краіны, а таксама Польшчы. Былі там і вопытныя ваяры-найміты з Вугоршчыны і Нямеччыны, некалькі тысяч украінскіх казакоў. Большасць збройнай моцы Сцяпана Батуры складалі беларусы, бо менавіта наша радзіма знаходзілася тады ў небяспецы. Дзеля яе выратавання рваліся нашыя прадзеды на бітву.

У Свіры былі зроблены агледзіны аб'яднанага войска. Тут гаспадар (так называлі нашага вялікага князя) заклікаў сваіх жаўнераў ахвяравацца дзеля вызвалення Айчыны. Звярнуўся ён і да насельніцтва земляў, куды кіраваў сваё войска. Тлумачыў, што падымае меч на цара маскоўскага, а не на мірных людзей. Жадае перамогі, а не разбурэння і бескарыснага праліцця крыві. І сваё слова стрымаў. Нават расейскія гісторыкі прызнавалі пазней, што не было ніколі вайны такой літасцівай да земляробаў і гараджан, як гэтая Батурава.

З Свіры доўгія калоны пяхотнікаў, харугвы кавалерыі, артылерыя, абозы, аточаныя лёгкімі заслонамі вершнікаў, рушылі на ўсход. Ішлі тым старадаўнім полацкім шляхам, па якім хадзіў некалі на Маскву вялікі князь Альгерд. Адначасова, апераджаючы войска, паімчаў ганец з лістом да Івана Жахлівага. У гэтым лісце Сцяпан Батура па-рыцарску папярэджваў непрыяцеля аб пачатку ваенных дзеянняў.

Паход выдаўся цяжкім. Ішлі безупынныя дажджы, і глiністыя дарогі Полаччыны раскіслі. Грузлі абозы, гарматы, коні. Толькі 4 жніўня перадавыя загоны падышлі да старадаўняй сталіцы. Затым падцягнуліся асноўныя сілы, і пачалася аблога.

Задача здабыць Полацак была нялёгкая. Перад нашым войскам знаходзіўся горад, спрадвеку славуты сваімі ўмацаваннямі. Аснову абароны складалі замкі на стромкіх берагах, абкружаныя Дзвіной і Палатой. Яны былі ўмацаваныя высокімі насыпанымі валамі, драўлянымі сценамі і шматлікімі вежамі. Драўляныя ўмацаванні па нізе былі абкладзеныя дзёрнам, каб засцерагчы ад падпалу. Там, дзе не было ракі, замкі абкружалі глыбокія равы з вадой. Дый гарнізон быў немалы: налічваў 6 тысяч маскоўцаў. Да таго ж і ў іншых мясцінах Полаччыны знаходзілася некалькі моцных маскоўскіх цвердзяў з вялікімі гарнізонамі. У адным толькі Сокале, што ляжаў на паўночны захад ад Полацка, было каля 6 тысяч стральцоў.



Вызваленне Полацка войскамі Сцяпана Батуры. З тагачаснай гравюры

Як толькі замкнуўся фронт аблогі Полацка, наша артылерыя пачала абстрэл горада. Маскоўцы не вытрымалі, падпалілі шчыльную драўляную забудову і адступілі ў замкі, прысягаючы сабе трымацца да канца. А каб адрэзаць шляхі да перамоваў, ваяводы загадалі забіць некалькі палонных беларусаў. Трупы іх прывязалі да бёрнаў і ўкінулі ў Дзвіну на вочы батураўцаў.

Здавалася, што маскоўцам спрыяла само неба. Бо дзень пры дні ліў дождж. Абарончыя равы перапоўніліся вадой. А драўляныя сцены і вежы так намоклі, што іх нельга было падпаліць нават нагрэтымі да чырвані ядрамі. Такое працягвалася блізу трох тыдняў.

Маскоўскі цар, баючыся за сваё жыццё, большасць войскаў трымаў пры сабе ў Пскове. Але некалькі тысяч усё ж паслаў на дапамогу. Аднак тыя не змаглі прабіцца да Полацка, бо шлях ім заступіў Мікалай Радзівіл Руды. Ды зацягваць аблогу было небяспечна — вораг мог апамятацца.

Нарэшце сціхлі дажджы і раз'яснела неба. Пад гарачым летнім сонцам хутка сохлі сцены. І вось 27 жніўня пачаўся штурм горада. Смелякі пад градам куляў кідаліся да ўмацаванняў, каб падпаліць іх, і гінулі. Нарэшце аднаму мешчаніну

Схема бітвы 1579 года за Полацак



Афіцэр-пяхотнік з войска Сцяпана Батуры

з Альбова (гэтак беларусы даўней называлі Львоў) удалося прарвацца да вежы, адкінуць дзёран і ўсунуць між бярвеннем жар. І дрэва запалала! Сам жа герой, лёгка паранены ў руку, вярнуўся да сваіх. Ён адразу атрымаў ад Сцяпана Батуры шляхоцкую годнасць і адпаведнае прозвішча — Палацінскі (па назове рэчкі Палата). Атрымаў таксама герб, на якім была намаляваная рука з паходняй, прабітая стралой.

Занялося полымя і ў іншых месцах. І на сцены, заахвочаная самім каралём, кінулася вугорская пяхота. Пайшлі ў наступ іншыя харугвы. Некаторым ваярам удалося нават прасекчыся праз маскоўскія сціжмы за сцены. Аднак у першы дзень штурму вызваліць горад не дазволіў пажар на ўмацаваннях і супраціў гарнізона.

За ноч маскоўцы здолелі патушыць агонь. Але назаўтра распаленымі ядрамі замкі зноў удалося пад-

паліць у шмат якіх месцах. Усчаўся вялізны пажар, бачны на дзесяткі кіламетраў навокал. Да таго ж артылерыя літаральна засыпала стральцоў ядрамі. На сцены зноў і зноў па штурмавых лесвіцах уздзіраліся батураўскія ваяры. І маскоўскі гарнізон захістаўся. Стральцы запатрабавалі ад сваіх ваяводаў спыніць супраціў. Тыя напачатку не пагаджаліся, кажучы: "Баімся не злосці Сцяпанавай, а гневу царскага". Але не яны ўжо былі гаспадарамі сітуацыі. І 30 жніўня змушаныя былі скласці зброю.

Так літаральна за трое сутак актыўных і несупынных штурмаў было скончана з маскоўскім супрацівам. "І гэтак Полацак, слаўная сталіца княжат даўных, з рук маскоўскіх выдзертая ёсць", — занатаваў беларускі летапісец. Зноў стаў вольным бацька гарадоў беларускіх і калыска беларускай дзяржаўнасці!

Па вызваленні Полацка Батура паслаў пад Пскоў лёгкую конніцу — трымаць у яшчэ большым страху цара і сачыць перамяшчэнні маскоўскіх палкоў. Значная ж частка войска на чале з Радзівілам пайшла да Сокала і ўзяла ў аблогу яго гарнізон. На пяты дзень былі падпаленыя вежы, запалала драўляная забудова за сценамі. І крэпасць ператварылася ў суцэльнае пякельнае вогнішча. Ратуючыся ад агню, маскоўцы выйшлі з-за ўмацаванняў на адчайны прарыў аблогі. Але не здолелі. Нашы ваяры самі праламаліся ў цвердзь і ў шалёнай сечы паклалі блізу чатырох тысяч чужынцаў.

Пасля вызвалення Полацка ад захопнікаў ачысцілі большыню ўсходнебеларускіх земляў. Наступныя паходы Сцяпана Батуры на Вялікія Лукі (1580 год) і Пскоў (1581 год) прывялі да адыходу акупацыйных



Пяхотнік Сцяпана Батуры, узброены баявой сякерай

войскаў з Прыбалтыкі. І цар, які яшчэ нядаўна намерваўся прысабечыць велізарныя абшары, папрасіў замірэння. Масква адмаўлялася ад усіх сваіх заваёваў у Беларусі, Латвіі і Эстоніі. Больш за тое, да Вялікага Княства вяртаўся старадаўні беларускі горад Вяліж з акругай.

Але Сцяпан Батура не намерваўся спыняцца на дасягнутым. Бо, уступаючы на віленскі вялікакняскі пасад, ён абавязваўся вярнуць нашаму гаспадарству ўсе захопленыя суседзямі землі. І толькі смерць вялікага ваяра ў 1586 годзе перашкодзіла ягонаму вызваленчаму паходу на Смаленск, захоплены маскоўцамі яшчэ ў 1514 годзе.

Інфлянцкая (Лівонская) вайна была чарговым крывавым эпізодам у шматвяковым змаганні нашых продкаў на ўсходніх рубяжах.




шлях войска Яна Караля Хадкевіча

марскія паходы шведскіх войскаў у Прыбалтыку

сухаземнае перамяшчэнне шведаў

месца бітвы

# Бітва пад Кірхгольмам

Пасля смерці ў 1586 годзе Сцяпана Батуры вялікім князем нашага гаспадарства і адначасова польскім каралём быў выбраны Жыгімонт Ваза з шведскай каралеўскай дынастыі. Па маці ён паходзіў з роду Ягайлавічаў. Выбар быў не самы ўдалы. Новы гаспадар уцягнуў краіну ў доўгія і крывавыя войны з Швецыяй, Масквой, Турэччынай, а затым і ўкраінскім казацтвам. Парушылася таксама традыцыя верацярпімасці, якая здаўна існавала ў дзяржаве.

Стаўшы валадаром у Кракаве і Вільні, Жыгімонт захацеў захаваць за сабой і пасад у Стакгольме. А гэта выклікала збройнае сутыкненне з нашай заморскай суседкай. У 1600 годзе шведскія войскі з паўночнай Эстоніі накіраваліся ў бок Дзвіны і захапілі амаль усе Інфлянты.

Так пачалася зацятая вайна з шведамі за паўднёва-ўсходнюю Прыбалтыку, якая з перапынкамі доўжылася каля паўстагоддзя. Асноўны цяжар гэтага змагання лёг на плечы нашага народа — бо наш край быў зусім побач.

Валоданне Падзвіннем адкрывала водны шлях у Еўропу. Тут знаходзіліся і зямельныя інтарэсы беларускага магнацтва і шляхты. Менавіта нашы матэрыяльныя рэсурсы перад-



Вялікі гетман Ян Кароль Хадкевіч

усім ішлі на гэтую вайну. Сыны нашага краю папаўнялі конныя і пяхотныя харугвы. З Беларусі ў асноўным паходзілі і военачальнікі. І менавіта ў Прыбалтыцы беларуская зброя пакрыла сябе несмяротнай славай. Асабліва калі гетманамі былі Крыштоп Радзівіл Пярун і Ян Кароль Хадкевіч.

Неаднойчы церпячы паразы, шведы зноў збіраліся з сіламі і ўзнаўлялі наступ. Гэта адбывалася найчасцей тады, калі ў нашых гетманаў



Ахоўныя панцыры крылатых гусараў
і гусарская халодная зброя —
шаблі і канчар з похвай

канчаліся грошы на аплату войска і тое пачынала разыходзіцца.

Улетку 1605 года шведскі кароль Карл IX пераправіў марскім шляхам у Інфлянты тры карпусы агульнай колькасцю да 13 тысяч жаўнераў. Ён планаваў захапіць не толькі Падзвінне, але і самую Рыгу, якая была ключом да выхаду на прасторы Балтыкі. Жыгімонт Ваза ўстрывожыўся сур'ёзнай небяспекай. І хоць славіўся сваёй скупасцю, пераслаў вялікаму гетману Яну Каралю Хадкевічу 100 тысяч залатых на ўтрыманне войска. Сума была дастатковай, і наш военачальнік пачаў рыхтавацца, каб даць адпор шведам.

Уранку 25 верасня беларускія войскі рушылі з-пад латвійскага горада Цэсіса да Дзвіны ў ваколіцы Рыгі, якую ўжо аблажылі шведскія палкі. Прайшоўшы хуткім тэмпам за два дні 80 кіламетраў, войскі занялі пазіцыі каля вёскі Кірхгольм (цяпер Саласпілс).

Калі шведскі кароль даведаўся пра невялікую колькасць беларускага войска — менш за чатыры тысячы жаўнераў, ён хацеў кінуць супраць іх толькі частку сваіх сілаў. Але ягоныя военачальнікі, якія ў ранейшых бітвах спазналі моц гусарскіх харугваў Хадкевіча, настоялі на больш сур'ёзным стаўленні да праціўніка. "Інакш, — тлумачылі яны свайму валадару, — хутчэй Дзвіна паверне

назад, чым каралеўская міласць убачыць уцёкі ліцьвіноў".

Цёмнай хмарнай ноччу з-пад Рыгі на чале з самым каралём выйшла каля 11 тысяч шведскага войска, якое складала пераважна пяхота з ручной агняпальнай зброяй, падмацаваная пікінерамі. Было пры каралі і некалькі тысяч цяжкай конніцы — райтараў, а таксама пэўная колькасць артылерыі.

Нечаканы праліўны дождж крыху астудзіў шведаў. Але на світанку 27 верасня яны ўжо набліжаліся да пагоркаў Кірхгольма, гатовыя атакаваць стомленае доўгім пераходам беларускае войска. Ян Хадкевіч разумеў, што перавага шведаў была ў моцы агняпальнай зброі і ў шчыльных чатырохкутніках мушкецёраў. Ім трэба было супроцьпаставіць імпэт гусарыі, узброенай пікамі і шаблямі. Тым больш у прапорцыі — адзін супраць трох...

Гетман паставіў свае войска ў тры лініі. Цэнтр пазіцыі занялі 300 гусараў самога Хадкевіча на чале з вядомым ротмістрам Вінцэнтам Войнам. Правей стаў гусарскі полк яшчэ аднаго выпрабаванага ваяра — Яна Сапегі. Наперадзе палка было 350 вершнікаў брата гетмана Аляксандра Хадкевіча, а таксама Шчаснага Невяроўскага. У другой лініі стаялі гусары самога Сапегі і Вілямоўскага. Заплечча ж занялі коннікі Змітра Баруxоўскага і будучага амсціслаўскага ваяводы Марціна Гедройца. Цэнтральная групоўка была ўзмоцненая вершнікамі Тодара Ляцкага.

Найбольшая моц беларускага войска сканцэнтравалася на левым крыле. Тут полк на 900 гусарскіх шабляў Тамаша Дубровы быў дапоўнены лёгкімі вершнікамі.

Схема бітвы 1605 года пад Кірхгольмам





Заключны момант бітвы пад Кірхгольмам. Паводле малюнка К.Пілецці

Тылы войскаў Хадкевіча замыкалі вершнікі Яна Кішкі, Адама Тальвоша і Станіслава Белазора. Знайшлося ў баявых шыхтах месца і інфлянцкай пяхоце, а таксама райтарам курляндскага герцага. Пры беразе Дзвіны каля лагеру сталі чатыры конныя харугвы беларускіх татараў. Яны павінны былі ахоўваць вазы, а пры неабходнасці пераследваць праціўніка.

Дзень убіраўся ў сілу, а бітва не пачыналася. Беларусам не з рукі было пакідаць выгодныя пазіцыі на ўзвышшы. Асцярожныя шведы таксама не спяшаліся лезці ў бойку. Ішоў час, і тады Хадкевіч пайшоў на хітрыкі. Ён паслаў наперад частку вершнікаў. А потым загадаў ім павярнуць назад, паказваючы “уцёкі”. На гэта і спакусіўся Карл IX. Не жадаючы выпусціць з пабаявішча “баязлівага” праціўніка, ён даў знак да генеральнага наступу.

Хіснуліся пікі над галовамі шведскіх ваяроў і чатырохкутнікі пяхоты крануліся з месца. Яны рушылі ў нізінку да ручая, які дзяліў пазіцыі праціўнікаў. Перайшлі яго і пачалі цяжка ўздымацца па схіле. Калі вораг наблізіўся, беларуская пяхота дала залп з некалькіх гарматак і мушкетаў, а затым Вінцэнт Война пачаў атаку. Гусарскія роты пусцілі коней наўскапыта. Шведскія мушкецёры паспелі зрабіць толькі адзін залп, як нашыя вершнікі з прымацаванымі за плячмі крыламі ўжо ўрэзаліся ў іх шыхты.

Крышыліся даўгія гусарскія пікі аб панцыры і целы пяхотнікаў. Шаблі скрыжаваліся з рапірамі. Воблакі парахавога дыму ўзняліся над пабаявішчам. Гусары Войны раз за разам паўтаралі атакі. Шведскія

пяхотнікі, асабліва нямецкія найміты, трымаліся мужна. Але Война і не намерваўся праламаць цэнтр праціўніка. Для гэтага было замала сілаў. Задача перад ім была іншая — скаваць каралеўскую пяхоту, не даць ёй разгарнуцца на поўную моц. І з гэтым нашыя гусары, хоць і неслі страты, справіліся.

Такім чынам, ў цэнтры ўсё распачалося, як і задумаў Хадкевіч. Аднак галоўныя падзеі павінны былі разгарнуцца на прыдзвінскім крыле. Тут гусары Дубровы контратакай спынілі шведскіх райтараў, а затым адкінулі іх на фланг уласнай пяхоты. Частка каралеўскіх вершнікаў кінулася наўцёкі па рыжскім шляху. Наўздагон ім паімчалі лёгкаўзброеныя загоны. Прырэчнае крыло шведаў намаганнямі Дубровы было разгромленае. На правым жа крыле гусары Сапегі былі ў меншасці. Але гэта не спыніла і іх. Коннікі ўрэзаліся ў непаваротлівыя шыхты райтараў і тыя пачалі адступаць. Убачыўшы гэта, Карл IX кінуў ім на дапамогу ўсе свае рэзервы. Свежыя роты вершнікаў ударылі ў бок сапегаўцам, і тыя самі апынуліся ў крытычнай сітуацыі.



Пісталеты сямнаццатага стагоддзя з колкавым пускавым механізмам

Вось тут Хадкевіч зразумеў, што ў караля больш няма свежых войскаў. І тады ўступілі ў справу харугвы Ляцкага. Яны абагнулі зарослыя дрэвамі могілкі і нечакана ўсекліся ў аголены шведскі фланг. Райтары не вытрымалі і сталі ратавацца ўцёкамі. Тады прыйшла чарга на варожую пяхоту. Шведы і немцы ўпарта бараніліся. Іх камандзіры падалі з зброяй у руках. І шыхты нарэшце не вытрымалі і рассыпаліся. Кожны пачаў ратавацца паасобку. Частка пяхотнікаў спрабавала замацавацца ў суседняй мураванай бажніцы, але была вынішчаная гусарскімі слугамі-пахолкамі.

Бубны і дудкі падалі сігнал усеагульнай пагоні. Коннікі кінуліся за ўцекачамі, секучы іх цягам дзесятка кіламетраў у бок Рыгі. Пад самым каралём быў забіты конь, і яго толькі коштам уласнага жыцця выратаваў адзін нямецкі шляхціч. На палях Кірхгольма лягла большасць шведскай пяхоты, каля палова райтарыі, слаўныя военачальнікі і афіцэры. Кароль з недабіткамі дамкнуў да караблёў у вусці Дзвіны і паспешліва паплыў за мора. Вечарам таго ж дня ў Інфлянтах не засталося ніводнага шведскага жаўнера!

Праўда, Кірхгольмская перамога не прынесла пералому ў самой вайне за Інфлянты. На яе паспяховае завяршэнне ў Вільні і Варшавы не было сродкаў. Яны пайшлі на чарговую вайну з Масквой. У выніку ж да сярэдзіны сямнаццатага стагоддзя ў нашым уладанні засталася толькі паўднёва-ўсходняя Латвія.




марш войскаў пад кіраўніцтвам Яна Хадкевіча
перамяшчэнне варожых войскаў
месца бітвы

# Бітва пад Хацінам

Суседам Рэчы Паспалітай на поўдні была Асманская імперыя. Гэта магутная дзяржава туркаў-асманаў, якая ўсталявалася на руінах Візантыі. Да пачатку сямнаццатага стагоддзя іх уладанні ўжо прасціраліся на велізарныя прасторы Пярэдняй Азіі, паўночнай Афрыкі, паўднёва-ўсходняй Еўропы. На поўначы яны падступалі пад Вену і Альбоў.

Праўда, працяглы час дачыненні паміж Імперыяй і Рэччу Паспалітай не былі асабліва напружанымі. Асноўным сваім праціўнікам у Еўропе туркі лічылі Вугоршчыну і Аўстрыю, праз якія яны хацелі прабіцца ў Цэнтральную Еўропу. Справу ўскладнялі толькі падпарадкаваныя ім крымскія татары — сваімі рабаўнічымі нападамі на ўкраінскія землі, ды запарожскія казакі, якія ў адказ спусташалі ўзбярэжжы Чорнага мора.

На пачатку ж сямнаццатага стагоддзя абвастрылася суперніцтва за валоданне землямі гістарычных вобласцяў сённяшняй Румыніі — Малдавіі і Валошчыны. Да таго ж Варшава выразна выказалася за вайскова-палітычны альянс з Венай, якая супрацьстаяла навале з нізавіны Дуная. Усё гэта ўрэшце прывяло да войнаў нашых продкаў з туркамі, якія доўжыліся амаль стагоддзе.

Ініцыятарамі ваенных дзеянняў сталі фактычна ўкраінска-польскія магнаты. Увосень 1620 года іх войскі ўварваліся ў Малдавію, але былі разгромленыя туркамі. Загінуў і сам польскі гетман. Акрылены такой лёгкай перамогай, малады і ганарлівы султан Асман II пачаў збіраць усю сваю моц для паходу на Рэч Паспалітую. Ён хваліўся, што хоча дасягнуць берагоў Балтыйскага мора.

Разумеючы ўсю паважнасць небяспекі, да адпору энергічна рыхталася і Варшава з Вільняй. Збіралі грашовыя сродкі, мабілізавалі войскі. Аднак напачатку паўстала пытанне пра военачальніка. Пасля нядоўгіх развагаў выбралі Яна Караля Хадкевіча, праслаўленага ў бітвах з шведамі ў Інфлянтах і ў змаганні з Маскоўшчынай.

На прызначэнне гетманам Хадкевіча не ў апошнюю чаргу паўплывала тое, што да змагання з туркамі ахвотна далучыліся вопытныя ваяры з нашай краіны. Пад яго сцягі сталі загартаваныя на Марсавых палях харугвы гусарыі Мікалая Сяняўскага, Мікалая Зяновіча, Пятра Апалінскага, Яна Рудаміны, Мікалая Касакоўскага, Аляксандра Сапегі ды іншых слаўных ротмістраў. Тагачасны харвацкі паэт Іван Гундуліч напісаў пра Хацінскую вайну паэму



Ян Кароль Хадкевіч у сталым веку. Паводле малюнка мастака сямнаццатага стагоддзя Антоніса ван Дэйка

"Асман". Там ён сярод іншага прыгадвае роты беларусаў, узброеных шаблямі і стрэльбамі.

Значныя збройныя сілы вылучыла Польшча. Былі таксама загоны з Інфлянтаў, найміты з Нямеччыны ды іншых еўрапейскіх земляў. Каля паловы ўсіх войскаў склалі ўкраінскія казакі. Усяго ж Рэч Паспалітая змагла сабраць блізу 60 тысяч жаўнераў. І гэта супраць турэцкіх сціжмаў, якіх (з слугамі і крымскімі татарамі) набралася да 150 тысяч.

Ян Хадкевіч быў геніем гусарскіх атак, калі крылатыя вершнікі знішчальнай віхурай змяталі шыхты любога праціўніка. Але на гэты раз, улічыўшы стасункі сілаў, ён выбраў пазіцыйную тактыку. Размясціў свой ўмацаваны лагер на правым беразе Днястра каля сцен старажытнага Хацінскага замка (сёння гэта памежжа Малдовы і Украіны). Гэты замак будавалі беларускія майстры яшчэ за Вітаўтам Вялікім.

Перад войскам ставілася задача вытрымаць націск перасяжных сілаў ворага, які да таго ж меў найлепшую ў Еўропе артылерыю, і знясіліць яго контратакамі.

Палкаводзец умела мацаваў баявы дух сваіх ваяроў. Гарачлівы імпэт маладога султана, напрыклад, ён пракаментаваў беларускай прымаўкай: "Сярдзіты сабака — ваўкам страва". Калі ж зайшла размова пра вялікую колькасць туркаў, гетман дасціпна прапанаваў палічыць іх шабляй.



Беларускія пяхотнікі войска Яна Караля Хадкевіча




Схема бітвы 1621 года пад Хацінам

2 верасня 1621 года пад Хацін падышлі першыя турэцкія загоны. Яны з ходу распачалі атаку на запарожцаў, якія яшчэ не скончылі ўмацоўваць свой табар. Нягледзячы на вялікія страты ад казацкіх стрэльбаў-рушніц, янычары прабіліся да лініі абарончых вазоў. І на іх закіпела сеча. Гетман паслаў на дапамогу запарожцам нямецкую і польскую пяхоту. Вывеў за насыпныя валы іншыя свае харугвы, натхняючы да бітвы: "Зваліцеся на гэтых нягоднікаў, змятайце іх аццяжэлыя турбанамі галовы ёмкім пакосам шабляў. Вось Днестр ззаду непраходны, а вось наўкол залева турэцкіх і татарскіх сціжмаў. Няма ніякай спадзеўкі на ўцёкі — тут нам біцца і перамагчы або загінуць кажа неабходнасць!".

Туркі пачалі адыходзіць і толькі моцны гарматны агонь прыпыніў наступ войскаў Хадкевіча.

І так дзень пры дні распачаліся зацятыя прыступы туркаў, ураганныя абстрэлы. Нашы войскі адказвалі контратакамі, смелымі начнымі вылазкамі.

Можа, найцяжэйшым стаў дзень 7 верасня. Да абеду туркі вялі знішчальны гарматны абстрэл казацкага табару і раз-пораз спрабавалі яго атакаваць. У абед жа султан знянацку пачаў наступ на сутык абароны войскаў Вялікага Княства з палком польскага каралевіча Уладзіслава. Ляглі пад янычарскімі шаблямі дзве перадавыя роты. Затым туркі праламалі абарону польскай і нямецкай пяхоты і ўварваліся ў глыбіню лагера. Хадкевіч, імгненна ацаніўшы смяротную небяспеку, паслаў на небяспечны ўчастак спешаных ваяроў казацкага строю. Праціўнік быў адкінуты за вал. Раз'ятраны няўдачай,

Асман кінуў на ўмацаванні новыя войскі. І тады наш гетман выкарыстаў сваю выпрабаваную моц. Праз "ліцьвінскую" браму былі выведзены найлепшыя харугвы беларускіх гусараў пад камандай Мікалая Сяняўскага, Мікалая Зяновіча, Пятра Апалінскага, Яна Рудаміны, Аляксандра Сапегі. Узначаліў вылазку сам Ян Кароль Хадкевіч.

Каля тысячы вершнікаў ударылі ў фланг варожых сціжмаў. Хоць туркі напачатку і адчайна супраціўляліся, але іх шыхты былі змятыя цяжкімі коньмі, прабітыя гусарскімі пікамі, працярэбленыя шаблямі. Мусульмане не вытрымалі перад скрышальным напорам нашых малайцоў з-над Дняпра, Дзвіны і Нёмана. І толькі цемра спыніла вынішчэнне туркаў. Гэтая гусарская атака пад Хацінам гучным рэхам разляцелася па ўсёй Еўропе.

Гусарскія шаблі працверазілі султана. Пры такіх стратах пад ўмацаваннямі "няверных" у яго неўзабаве магло зусім не застацца ваяроў. Тады туркі змянілі тактыку. Яны намерыліся шчыльна заблакаваць войскі Рэчы Паспалітай. І частымі артылерыйскімі абстрэламі, дробнымі наскокамі асобных загонаў імкнуліся знясіліць іх, вымучыць голадам, хваробамі і прымусіць да капітуляцыі.

А становішча войскаў Хадкевіча сапраўды рабілася цяжкім. Шмат ваяроў было страчана ў штодзённых бітвах і сутычках з праціўнікам. Параненыя і хворыя перапаўнялі намёты. Бракавала пораху, не ставала харчавання. Даволі было толькі мяса, бо без аўса і сена гінулі коні. Найцяжэй было ўкраінцам. Корм сваім коням яны вымушаны былі здабываць ў часе контратак — пярэднія секліся з туркамі, а заднія наразалі ў мяхі траву.

Бітва з туркамі. Старадаўняя гравюра



Хацінскі замак. Малюнак дзевятнаццатага стагоддзя



Аднак туркам было яшчэ горш. Іх таксама ціснуў голад, але больш за ўсё нязвычны восеньскі холад. Шыхты іх прыкметна радзелі пад кулямі і шаблямі, ад хваробаў і дэзерцірства. Упаў маральны дух. Не дапамагала нават жорсткае пакаранне баязліўцаў смерцю. Трацілася спадзяванне на паход да Балтыкі. Яшчэ ў пачатку бітвы Асман абвясціў, што не будзе есці, пакуль не возьме лагер няверных. Але пазней султан ўжо не ўспамінаў пра тое абяцанне.

Становішча нашых войскаў ускладніў благі стан здароўя Яна Караля Хадкевіча. Шасцідзесяцігадовы пасівелы ваяр быў змучаны амаль беспярапыннымі паходамі і бітвамі, цяжкой хваробай нырак, прыступамі падучкі. Ён дажываў апошнія дні. 23 верасня, ужо бязмоўны, абкружаны военачальнікамі, ён перадаў гетманскую булаву свайму наступніку, а назаўтра па абедзе сэрца вялікага сына беларускай зямлі перастала біцца. “Пан гетман памёр, а з ім вялікае шчасце Айчыны мілай” — занатаваў сучаснік.

Акрыленыя весткай пра смерць Хадкевіча, туркі зноў кінуліся да валоў Хацінскага лагера. Адбылося некалькі новых прыступаў. Асабліва цяжка было запарожцам і беларускім лёгкаўзброеным аддзелам — лісоўчыкам. Але гэта былі апошнія канвульсіі параненага звера. У асманаў быў яшчэ порах для бітвы, але ўжо не ставала ні сілы, ні волі.

Нарэшце пачаліся перамовы, якія 9 кастрычніка скончыліся падпісаннем замірэння. Паводле яго, мяжу паміж Рэччу Паспалітай і Асманскай імперыяй пакідалі ранейшай. Гэта была перамога! А ў абаронцаў Хаціна на той дзень заставалася толькі адна бочка пораху...

І рушылі на поўдзень турэцкія войскі. Знясіленыя, дэмаралізаваныя. Вярнуўся ў Стамбул і пераможаны султан. А праз год яго забілі ўзбунтаваныя янычары.

Поспех пад Хацінам засведчыў, што магутнасць Асманскай імперыі ўжо пачала хіліцца да заняпаду. Ён паказаў таксама, што аб'яднаныя намаганні палякаў, беларусаў, украінцаў ды іншых народаў Рэчы Паспалітай могуць прыводзіць да перамог нават над самымі шматлікімі арміямі тагачаснага свету. Пасля Хаціна туркі яшчэ імкнуліся працягваць экспансію. Пад канец стагоддзя яны нават спрабавалі захапіць Вену. Але кожны раз цярпелі паразу. І нарэшце пачалі траціць свае заваёвы ў Еўропе, адступаць да азійскіх берагоў Міжземнага мора.




перамяшчэнні аб’яднаных беларуска-польскіх войскаў
месца бітвы
землі, захопленыя маскоўцамі
землі, захопленыя шведамі

# Бітва пад Палонкай

Вайна з Масквой 1654—1667 гадоў была самай жахлівай і крывавай старонкай у беларускай гісторыі. Трынаццаць гадоў варожыя войскі, якія прыходзілі з усходу — з боку Маскоўшчыны і з поўдня — з Украіны, вынішчалі наш край. У выніку Беларусь страціла больш за палову свайго насельніцтва. Некаторыя ж нашыя землі, найбольш ўсходнія, амаль цалкам абязлюдзелі. Сотні тысяч жыхароў, асабліва майстроў і рамеснікаў, былі выведзены палонам на ўсход. Гарады і сёлы ляжалі ў руінах і папялішчах. Само існаванне Вялікага Княства знаходзілася ў смяротнай небяспецы. Расейскі цар Аляксей Міхайлавіч намерваўся заваяваць яго цалкам. У самым пачатку вайны, пасля захопу Смаленшчыны, ён нават дадаў да свайго тытула згадку, што ужо з'яўляецца гасударом і "Белыя Русі". На нашае Падняпроўе прэтэндавала і украінскае казацтва Багдана Хмяльніцкага.

"Вокруг Слуцка велели мы всё выжечь, а идучи дорогою до Слонима села и деревни, и хлеб, и сено по обе стороны жгли и людей побивали и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей побили всех", — падобнымі рэляцыямі маскоўскіх ваяводаў была запоўнена тагачасная царская канцылярыя.

"Па-тыранску, па-разбойніцку як мужчын, так і самых жанчын, і дзетак немалую колькасць рознымі нечуванымі мукамі мучылі і на смерць пазабівалі" — пісаў сучаснік пра захоп Пінска 5 кастрычніка 1655 года. Гэтак жа было і пры захопе практычна кожнага іншага паселішча.

Да канца 1655 года практычна ўся Беларусь была акупавана маскоўцамі. Вольнымі заставаліся толькі Берасце, ды яшчэ некалькі асабліва ўмацаваных гарадоў. Сярод іх — Стары Быхаў, які далёка ў тыле ворага мужна трымаў абарону цэлых 18 месяцаў.

Да ўсіх няшчасцяў дадаўся і "шведскі патоп", калі войскі Карла Густава летам 1655 года пераплылі Балтыку і высадзіліся на ўзбярэжжы Рэчы Паспалітай. Праз некалькі месяцаў яны захапілі Польшчу, Жамойць і Інфлянты. Пяхотнікі шведскага караля выйшлі нават на поўнач Беларусі, падступілі да захопленай маскоўцамі Вільні.

Узімку 1658—1659 гадоў маскоўскі цар зноў узмацніў націск на не заваяваныя яшчэ абшары Беларусі. Над войскам быў пастаўлены вопытны ваявода Іван Хаванскі. Захапіўшы Горадню, ваявода спустошыў абшары Падляшша, а потым павярнуў на апошні вольны куток Беларусі —



Гетман палявы Павел Сапега.
Паводле тагачаснай гравюры

Берасцейшчыну. 15 студзеня 1659 года быў здабыты штурмам замак самога Берасця, а горад "да найменшага будынка... разбураны, спалены і ў нішто ператвораны". 20 сакавіка 1660 года 30-тысячная маскоўская раць падышла да Ляхавіцкага замка. Амаль адразу ж ворагі пачалі абстрэльваць і штурмаваць фартэцу. Але чатырохтысячны гарнізон на чале з камендантам Станіславам Юдзіцкім, маючы моцную артылерыю, мужна бараніўся і наносіў вялікія страты праціўніку. Ды ваявода Хаванскі любым коштам імкнуўся захапіць Ляхавічы, як адну з апошніх цытадэляў беларускага супраціву.

Усе сілы Польшчы былі занятыя вайной з украінскімі казакамі і шведамі. Таму першыя, найбольш цяжкія гады, вайны Беларусь практычна ў адзіноце спрабавала супрацьстаяць шматтысячным маскоўска-казацка-татарскім ордам ды нямецкім наймітам. Але ў траўні 1660 года, пасля шэрагу перамог над Карлам Густавам, паміж Варшавай і Стакгольмам быў нарэшце падпісаны мірны трактат. І цяпер Польшча магла вылучыць частку сілаў для дапамогі скрываўленаму Вялікаму Княству. На Берасцейшчыну, дзе змагалася войска гетмана Паўла Сапегі (каля 8 тысяч ваяроў) быў накіраваны ўкраінскі ваявода Стэфан Чарнецкі з 4-тысячнай дывізіяй.

Аб'яднаныя беларуска-польскія сілы адразу ж пачалі актыўныя дзеянні супраць захопнікаў.

Спачатку быў выбіты маскоўскі гарнізон з Слоніма. Знішчаны аддзелы акупантаў пад Зэльвай, Галынкай і Дзярэчынам. Павел Сапега з-пад Жыровічаў паслаў некалькі загонаў ў кірунку Ляхавічаў. Ён хацеў адцягнуць на сябе хоць частку абложнікаў замка. Першая сустрэча з раз'ездам (пошукавым аддзелам) праціўніка закончылася паразай расейцаў. Ацалелыя рэшткі ўцяклі ў свой лагер пад Ляхавічамі. І тут царскі ваявода выступіў насустрач нашым войскам.

Звечара 24 чэрвеня дывізіі Сапегі (каля 6 тысяч) і Чарнецкага (4 тысячы) сталі ў баявыя шыхты. Цэнтр заняло войска Чарнецкага. На крылах пазіцыі размясціліся сапегаўцы: на правым — жаўнеры пад камандай Вайніловіча, на левым — на чале з Палубінскім. Маскоўскі ж ваявода ў цэнтры свайго войска паставіў пяхотнікаў і вершнікаў-райтараў, на левым крыле — конніцу князя Шчарбатага, а вершнікаў правага крыла ўзначаліў сам.

А 8 гадзіне раніцы наступнага дня Хаванскі, які меў войска больш як 20 тысяч чалавек, распачаў бітву. Першай пайшла ў атаку конніца той беларускай шляхты, якая яшчэ раней была змушаная прысягнуць на вернасць маскоўскаму цару. У часе

пераправы цераз балоцістую рэчку яна трапіла пад моцны агонь рушніц, а затым была разбітая контратакай ваяроў Чарнецкага. Сам правадыр шляхты трапіў у палон. На дапамогу маскоўцы паслалі 6 тысяч пяхотнікаў. Ды на пераправе цераз тую ж рэчку яны былі заатакаваныя беларускімі і польскімі гусарамі. Вершнікі ў вадзе і на прыбярэжжы секлі ратнікаў Хаванскага. Пад агнём маскоўскай артылерыі пайшло ў наступ левае крыло беларускага войска. Грузнучы ў балоце, коштам вялікіх стратаў гусары Палубінскага прарваліся на сухазем'е. Вымкнуліся наперад таксама войскі цэнтра і правага крыла.

Хаванскі кінуў на дапамогу ратнікам рэшту сваіх сілаў — найлепшыя баярскія палкі і нямецкіх райтараў. Пакінуўшы ўжо за спіной нялёгкую пераправу, нашы войскі мелі толькі выбар: перамагчы або памерці. Жаўнерам трэба было вытрымаць і пераламаць ход змагання. І яны выстаялі.

Плячо да пляча секліся беларусы і палякі. Маскоўцы напачатку таксама націскалі з вялікім імпэтам. Ім, ужо прывыклым да перамог, калі амаль увесь беларускі край ляжаў пад нагамі, не выпадала ганьбіць сябе паразай. Але нашая зацятасць, нашая рашучасць адпомсціць за знішчаную, высечаную, змардаваную Бацькаўшчыну, за былыя няўдачы і прыніжэнні былі мацнейшыя.

Схема бітвы 1660 года пад Палонкай



Вось ужо маскоўскі ваявода паранены шабляй у галаву. Вось ужо радзеюць варожыя шыхты. Гасне бляск у баярскіх вачах, з'явілася разгубленасць на іх тварах. А тут харугвы Вайніловіча зайшлі збоку і імкліва ўдарылі ў фланг, потым зайшлі з тылу. І нарэшце праціўнік асаджвае разгарачаных коней, паварочвае назад. А нашы гусары і панцырныя нястрымна рвуцца наперад, і рукі з шаблямі не адчуваюць стомы.

Жаўнеры Вайніловіча пры атацы натрапілі на маскоўскую пяхоту з артылерыяй, што замацавалася ў фальварку. Удзельнік бітвы пад Палонкай пазней успамінаў гэты момант: "Позна было агонь даваць, калі ляцеў град куль. Палеглі забітымі шмат жаўнераў, шмат атрымалі раненні. Але яшчэ з большым імпэтам пайшлі мы на іх, бо ўбачылі, што ледзь не ўсе загінем, калі спіны пакажам (гэта значыць, калі кінуцца ўцякаць). І безвач лезлі ў агонь, ды так з імі змяшаліся. Як зерне з сечкай, бо ўжо нельга было іначай". Выбітых з такой цяжкасцю з фальварка маскоўскіх пяхотнікаў высекла ў чыстым полі конніца. "Цяжка было раз'юшаным жаўнерам звязаць рукі і выбілі яны тры тысячы да аднаго", — быццам апраўдваючыся, пісаў потым Павел Сапега.

Гармата сямнаццатага стагоддзя з запасам жалезных ядраў і пораху





Беларускі мушкетнік з войска Паўла Сапегі

Пыхлівыя заваёўнікі ратаваліся ўцёкамі, гінучы пад шаблямі сапегаўцаў і ваяроў Чарнецкага. Трапіў у палон Шчарбаты, загінуў другі маскоўскі ваявода — Змееў.

З дзвюма шабельнымі ранамі галавы сам Хаванскі панічна пабег пад Ляхавічы. Ён хацеў прыхапіць рэшту ацалелага войска і пад яго аслонай уратавацца. Наступнай ночы ён быў ужо ў Менску. Адтуль памкнуў далей на ўсход. Дыханне перавёў толькі ў Смаленску.

У кінутым уцекачамі лагеры пад Ляхавічамі пераможцам дасталіся вялізныя трафеі. Асабліва радаваўся Павел Сапега шматлікай артылерыі, запасам пораху. Было тут таксама багата мукі і больш як сем тысяч нарабаваных у сялян кароў.

Паводле сведчання Шчарбатага, пад Палонкай загінула 16 тысяч маскоўцаў. Гэта быў поўны разгром галоўнай царскай арміі, якая тады дзейнічала ў Беларусі, і карэнны пералом у ходзе вайны. Ад Палонкі пачалося выгнанне захопнікаў з нашай зямлі. У тылах праціўніка з новай сілай разгарнулася народная партызанская барацьба. Неўзабаве войскі Сапегі і Чарнецкага былі ўжо пад Барысавам. Гэтым жа летам вызваленне святкавалі яшчэ ацалелыя жыхары гарадоў Крычава, Шклова, Амсціслава. Некаторыя загоны беларускіх вершнікаў падышлі ажно да Смаленска.

На Падняпроўі і Падзвінні пад акупацыяй яшчэ заставаліся некаторыя абшары і такія гарады, як Полацак і Віцебск, але вайна ўжо хілілася да свайго канца. Яшчэ некалькі гадоў працягваліся паходы і бітвы. Былі бліскучыя перамогі, здараліся і паразы. Ды ўсё гэта ўжо адбывалася на ўсходнім і паўночнаўсходнім памежжы нашай дзяржавы, на Смаленшчыне, Браншчыне. Пошугі ваеннай актыўнасці чаргаваліся з мірнымі перамовамі.

І нарэшце на самым пачатку 1667 года ў вёсцы Андросаве пад Смаленскам паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай было падпісанае замірэнне. Да Масквы адыходзілі ўсходнебеларускія землі — Смаленшчына і заходняя Браншчына, а таксама левабярэжная Украіна і Кіеў. Аднак маскоўскаму цару не ўдалося здзейсніць свой асноўны намер — захапіць усю Беларусь, знішчыць нашу дзяржаву. Ён дамогся толькі аднаўлення мяжы, якая існавала ранейшымі часамі.



Беларускі гусар з войска Паўла Сапегі

# ЗМЕСТ



Навукова-папулярнае выданьне

Чарняўскі Міхась

**Дзесяць бітваў**

Рэдактар
*Алесь Храмцэвіч*
Мастак
*Рыгор Долбік*
Мастацкі рэдактар
*Віталь Турчыновіч*
Карэктар
*Марыя Журавель*
Тэхнічны рэдактар
*Ала Зіновіч*
Макетаванне
*Наталя Дайнека*

Падпісана ў друк 15.07.04. Фармат 60 х $84^1/_8$. Папера афсетная. Гарнітура Times ET.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7,44. Наклад 3000 асобнікаў. Заказ № 546.

Друкарня “Karčan”, Žalgirio 96/2. 2645 Vilnius, Lithuania.

